ШТОТЫДНЁВАЯ ГАЗЕТА ДЛЯ СУАЙЧЫННІКАЎ
ЗА МЕЖАМІ БАЦЬКАЎШЧЫНЫ

# Голас Радзімы

№ 11
(2569)

19 сакавіка 1998 г.
Выдаецца з 1955 г.

Цана 1500 рублёў.

## ДАНТЭ «ЗАГАВАРЫЎ» ПА-БЕЛАРУСКУ








**Больш чым праз шэсць стагоддзяў пасля стварэння Дантэ Аліг'еры "Боскай камедыі" бессмяротны твор загучаў на беларускай мове. Прэзентацыя перакладу "Боскай камедыі", зробленага паэтам Уладзімірам Скарынкіным, адбылася ў Беларускім таварыстве дружбы і культурнай сувязі з зарубежнымі краінамі. Высокую ацэнку працы У. Скарынкіна далі яго калегі-пісьменнікі, прадстаўнікі Міністэрства культуры, а таксама Надзвычайны і Паўнамоцны Пасол Рэспублікі Італія ў Беларусі Джавані Чароці.**

**НА ЗДЫМКАХ: партрэт Дантэ Аліг'еры; "Боская камедыя" на беларускай мове; у час прэзентацыі кнігі.**

**Фота Яўгена КАЗЮЛІ.**

АДНАЎЛЕННЕ ЗАНЯДБАНАЙ ГАЛІНЫ

## КОНЬ ЯК КРЫНІЦА ВАЛЮТЫ

У Беларусі конь традыцыйна цаніўся, сяляне лічылі яго першай пасля каровы жывёлай у сваёй гаспадарцы. Развівалася конегадоўля ў рэспубліцы і пасля рэвалюцыі, хаця спробы замяніць сапраўдных коней жалезнымі мелі вельмі сумныя вынікі: коней нібыта з-за непатрэбнасці знішчалі, выразаючы цэлыя табуны.

Тым не менш, яшчэ да вайны ў краіне былі створаны Мсціслаўскі і Гомельскі конезаводы, у 1968—1969 гадах конезавод імя Даватара. Стварэнне ў 1991 годзе Беларускай асацыяцыі па конегадоўлі стала пачаткам пад'ёму галіны. Былі завезены добрыя жарабцы-вытворцы і ўтворана сетка племянных ферм. Апошнім часам цікавасць да конегадоўлі стала ўзрастаць, што ў немалой ступені абумоўлена эканамічнай эфектыўнасцю выкарыстання экалагічна чыстай, адносна таннай і самааднаўляемай цяглавай сілы ў выкананні сельскагаспадарчых работ невялікіх аб'ёмаў. Адыграў сваю ролю ўзрослы ў сувязі з развіццём спорту і турызму попыт на коней на сусветным рынку. На сёння ў Беларусі створаны чатыры конныя заводы і шэраг племянных спецыялізаваных конефермаў розных пародных напрамкаў, якія забяспечваюць гаспадаркі племянным пагалоўем. Апошнія пяць гадоў пагалоўе коней у рэспубіцы стала павялічвацца. Так, у 1990 годзе ў Беларусі налічвалася 217 000 коней, у 1996-м — іх было ўжо 232 000 галоў. Значна павялічылася колькасць коней, якія знаходзяцца ў фермерскіх гаспадарках і ў насельніцтва. І калі ў 1990 годзе іх было ўсяго 12 000, то сёння колькасць коней у прыватных уладальнікаў складае больш за 80 000 галоў. Найбольш шматлікія коні рускай цяжкавознай тракененскай, а таксама беларускай і рус-

**(Заканчэнне на 3-й стар.).**

ГІСТОРЫЯ ВУЧЫЦЬ...

## Георгій КАНІСКІ:

## «17 ГОД ЗМАГАЎСЯ Я З ВАЎКАМІ»

Адной з самых вострых праблем палітычнага жыцця Рэчы Паспалітай XVIII стагоддзя з'яўлялася праблема дысідэнтаў.

Цяпер слова дысідэнт звычайна ўжываецца для пазначэння чалавека, які не згодны з пануючай ідэалогіяй, г. зн. іншадумца. Аднак маецца яшчэ і іншае значэнне гэтага слова, якое ўзнікла раней за першае. Яно ўжываецца для абазначэння чалавека, які не прытрымліваецца пануючага ў даным грамадстве веравызнання. Слова дысідэнт (дысідэнты) пачало ўжывацца ў Рэчы Паспалітай з XVI стагоддзя, з часоў Рэфармацыі, са з'яўленнем тут прыхільнікаў лютэранства, кальвінізму, антытрынітарызму. Але ўвайшло ў шырокі ўжытак пасля Брэсцкай царкоўнай уніі 1596 года, калі пануючым веравызнаннем Рэчы Паспалітай стала вучэнне рымска-каталіцкай царквы.

Праваслаўных, якія прынялі Брэсцкую царкоўную унію, сталі называць уніятамі (часцей унітамі) ці грэкакатолікамі. Праваслаўных жа, якія не прынялі Брэсцкай царкоўнай уніі, г. зн. захавалі прыхільнасць праваслаўнай царкве, дызунітамі. Такім чынам, пасля Брэсцкай царкоўнай уніі дызунітаў, лютэран, кальвіністаў і антытрынітарыяў (у сярэдзіне XVII стагоддзя апошнія былі выгнаны з Рэчы Паспалітай) сталі называць дысідэнтамі.

Першапачаткова дысідэнты як Вялікага Княства Літоўскага, так і Каралеўства Польскага карысталіся аднолькавымі з каталікамі правамі, што знайшло адлюстраванне ў Генрыхавых артыкулах 1573 года, Статуце Вялікага Княства Літоўскага 1588 года і іншых заканадаўчых актах. Аднак пасля Брэсцкай царкоўнай уніі правы дысідэнтаў Рэчы Паспалітай сталі ўшчамляцца, парушацца, абмяжоўвацца. Найвышэйшага праяўлення дыскрымінацыя веруючых па рэлігійных прыкметах дасягнула ў гады праўлення перадапошняга караля Рэчы Паспалітай Фрыдрыха Аўгуста III, якое працягвалася 30 гадоў (1733—1763). На сейме 1733 года быў прыняты закон, па якому дысідэнтам забаранялася займаць якія-небудзь дзяржаўныя пасады. Гэта значна стымулявала барацьбу праваслаўных і пратэстантаў за свае правы, якая стала стрыжнем палітычнага жыцця і палітычнай думкі Рэчы Паспалітай сярэдзіны XVIII стагоддзя. У ходзе барацьбы за ўраўноўванне ў правах дысідэнтаў з каталікамі вылучыўся шэраг вядомых палітычных мысліцеляў, адным з якіх з'яўляецца магілёўскі епіскап Георгій Каніскі (1717—1795), пазней архіепіскап беларускі.

Георгій (да пастрыгу ў манахі — Рыгор) скончыў Кіева-Магілянскую акадэмію, праявіўшы ў гады навучання ў ёй выдатныя здольнасці. Затым выкладаў у акадэміі рыторыку, філасофію, багаслоўе, стаў прафесарам, рэктарам акадэміі. Аднак жыццё яго нечакана пайшло па іншаму напрамку.

**(Заканчэнне на 4-й стар.).**

НАШЫ ГАРАДЫ

## ЗЯМЛЯ СЛЫННЫХ ЛЮДЗЕЙ




Невялікія гарады раскіданы па ўсёй Беларусі. Часам яны знешне падобныя, асабліва надаюць ім падабенства новыя кварталы, забудаваныя сучаснымі тыпавымі дамамі. Але ў кожнага гарадка, звычайна раённага цэнтра, свая гісторыя, свая адметнасць. Іх мінулае адкрывае нямала таямніц з жыцця народа, узбагачае духоўна.

Валожын — адзін са старажытных нашых гарадоў. Пазнаёміў з яго гісторыяй

**(Заканчэнне на 3-й стар.).**

# ВЕСТКІ З БЕЛАРУСІ

ДНІ КУЛЬТУРЫ ВЕНГРЫІ



У Беларусі прайшлі Дні культуры Венгерскай Рэспублікі. У Доме дружбы з зарубежнымі краінамі адкрылася выстава "Венгерская рэвалюцыя і вызваленчая барацьба 1848—1849 гадоў". Венгерскі народ адзначае 150-годдзе паўстання супраць Габсбургскай манархіі Аўстрыйскай імперыі. У экспазіцыі сабраны фатаграфіі, гравюры, жывапісныя работы з фондаў Ваенна-гістарычнага музея ў Будапешце, якія расказваюць аб падзеях і ўдзельніках тых шчаслівых і трагічных дзён Венгрыі.

Адкрыў выставу Надзвычайны і Паўнамоцны Пасол Венгерскай Рэспублікі ў Беларусі Габар Харш. На адкрыцці прысутнічалі грамадскія і дзяржаўныя дзеячы Беларусі, прадстаўнікі дыпламатычнага корпуса.

НА ЗДЫМКУ: пасол Венгерскай Рэспублікі ў Беларусі Габар ХАРШ (у цэнтры) на адкрыцці выставы.

РАЗАМ

## СУПРАЦЬ НАСТУПСТВАЎ ЧАРНОБЫЛЯ

Праграма сумеснай дзейнасці міністэрстваў па надзвычайных сітуацыях Беларусі і Расіі па пераадоленню наступстваў чарнобыльскай катастрофы на 1998—2000 гады прынята на сумесным пасяджэнні калегій двух ведамстваў, якое адбылося ў Маскве.

Каменціруючы гэты дакумент, першы намеснік міністра па надзвычайных сітуацыях Беларусі ІгарРалевіч адзначыў, што праграма ўключае ў сябе шырокае кола пытанняў. У прыватнасці, ёю прадугледжана сумесная дзейнасць Беларусі і Расіі ў аграпрамысловым комплексе, у галіне аховы здароўя, радыяцыйнага кантролю і г. д. Плануецца завяршыць будаўніцтва і аснашчэнне абсталяваннем шэрагу медыцынскіх аб'ектаў, размешчаных на тэрыторыі дзвюх краін. Фінансаванне гэтай праграмы будзе ажыццяўляцца з бюджэту Саюза Беларусі і Расіі.

У ЛЮСТЭРКУ СТАТЫСТЫКІ

## НАЦЫЯНАЛЬНАЯ АРМІЯ

Паводле звестак БелаПАН, з 18,5 тысячы афіцэраў, якія зараз праходзяць службу ў беларускіх Узброеных Сілах, беларусы складаюць крыху больш за палову — 51 працэнт.

Каля 36 працэнтаў прадстаўнікоў афіцэрскага корпуса па нацыянальнасці — рускія, прыкладна 10 працэнтаў — украінцы.

Сярэдні ўзрост афіцэраў беларускага войска — 33 гады; больш за 90 працэнтаў з іх маюць вышэйшую адукацыю і каля 10 — вышэйшую ваенную (акадэмічную).

ДЗЯКУЮЧЫ РЭКАНСТРУКЦЫІ



Дзякуючы рэканструкцыі лініі па вытворчасці ліналеуму, у акцыянерным таварыстве "Гомельбудматэрыялы" сталі атрымліваць прынцыпова новы матэрыял на ўспененай аснове, сфера прымянення якога значна шырэйшая за традыцыйную. Падзеяй у вытворчасці будматэрыялаў з'явілася і атрыманне летась фарбаванага сілікатнага каменя, што значна палепшыць архітэктурную выразнасць сучасных жылых мікраараёнаў.

НА ЗДЫМКУ: сілікатная цэгла гатова да адпраўкі спажыўцу.

ФЕСТЫВАЛЬ У БЕЛАСТОКУ

## «БЕЛАРУСКАЯ ПЕСНЯ-98»

У канцы лютага ў Беластоку прайшоў польскі фестываль "Беларуская песня-98". Магутным завяршальным акордам фестывалю стаў вялікі гала-канцэрт. Арганізатарам фестывалю выступіла Беларускае грамадска-культурнае таварыства ў Польшчы. Ужо чацвёрты раз ганаровы патранаж над гала-канцэртам узяў на сябе былы прэм'ер-міністр, а сёння дэпутат польскага сейма Уладзімеж Цімашэвіч.

Гэта культурная падзея выклікала вялікую цікавасць у Беластоку. Перад гледачамі выступілі 28 самадзейных вакальных груп, хораў, салістаў, якія былі апрануты ў нацыянальнае беларускае адзенне.

Па звестках з Беластока, спадабалася гледачам і майстэрства гасцей з Беларусі — артыстаў Дзяржаўнага акадэмічнага народнага хору імя Цітовіча пад кіраўніцтвам прафесара Міхаіла Дрынеўскага.

ЗАЛАТЫ МЕДАЛЬ А. ШВЕЙЦЭРА

Залатым медалём Альберта Швейцэра (аўстрыйскі ўрач-гуманіст, доктар тэалогіі, філасофії і медыцыны, лаўрэат Нобелеўскай прэміі) узнагароджаны рэктар Віцебскага дзяржаўнага медыцынскага інстытута прафесар Аляксандр Касінец.

Гэтая радасная вестка прыйшла ў Віцебскі медінстытут з Варшавы ад прэзідэнта Польскай медыцынскай акадэміі, а ўручана высокая ўзнагарода за заслугі ў развіцці медыцынскай навукі будзе ў маі гэтага года ў Каралеўскім замку ў Варшаве.



НА ЗДЫМКУ: рэктар Віцебскага медінстытута, прафесар Аляксандр КАСІНЕЦ.

ГОД АДАМА МІЦКЕВІЧА

## АДНАЎЛЯЕЦЦА РАДАВАЯ СЯДЗІБА

Брэстаўчане рыхтуюцца шырока адзначыць 200-годдзе з дня нараджэння вялікага паэта Адама Міцкевіча. Асноўныя ўрачыстасці з гэтай нагоды адбудуцца сёлета 24 снежня. Мяркуецца, што да гэтага часу ў Баранавіцкім раёне практычна поўнасцю адновяць сядзібу Міцкевічаў, дзе нарадзіўся будучы паэт. Аднаўленчыя работы тут вядзе беларуска-польскае прадпрыемства "Рэнаватум". Ужо набылі ранейшы выгляд дом Міцкевічаў, гаспадарчыя пабудовы, лазня, расчышчаны вадаём. Побач узводзіцца невялікі адміністрацыйны будынак, таму што плануецца ствараць цэлы музейны комплекс пад адкрытым небам.

БУДЗЕ МЯСА

## РАЗВІЦЦЁ ЖЫВЁЛАГАДОЎЧЫХ КОМПЛЕКСАЎ

У бягучым годзе ў Беларусі мяркуецца павялічыць вытворчасць мяса птушкі на 15 працэнтаў, свініны — на 30 працэнтаў і ялавічыны — на 20 працэнтаў у параўнанні з мінулым годам.

Пра гэта паведаміў віцэ-прэм'ер Беларусі Уладзімір Гаркун на нядаўняй рэспубліканскай нарадзе па пытаннях працы аграпрамысловага комплексу, якая прайшла ў Гродне.

Пры гэтым урад мае намер удзяляць асобую ўвагу развіццю вытворчасці мяса на буйных жывёлагадоўчых комплексах.

ІГНАЛІНСКАЯ АЭС

## МОЖНА НЕ ХВАЛЯВАЦЦА

На працягу пяці гадоў вучоныя Літвы ў адпаведнасці са спецыяльнай міжнароднай праграмай вывучалі экалагічную сітуацыю на тэрыторыях, размешчаных каля Ігналінскай АЭС.

Вынікі даследаванняў паказалі: ніякіх прыметных змяненняў у навакольным асяроддзі не назіраецца. Гэта дало магчымасць спецыялістам зрабіць вывад, што работа станцыі не нанесла ўрону прыродзе і здароўю людзей.

ЗАБЫЦЦЮ НЕ ПАДЛЯГАЕ

## ПАЛІТЫЧНЫЯ РЭПРЭСІІ НА БЕЛАРУСІ

Пра масавыя рэпрэсіі 30-х—50-х гадоў напісана і сказана намала. Асобая цікавасць да гэтых трагічных старонак нашай гісторыі тлумачыцца перш за ўсё імкненнем выкрыць таталітарызм у мінулым, не дапусціць яго паўтарэння.

У сувязі з гэтым неабходна даць ацэнку гэтага гістарычнага перыяду, даць аналіз вынікаў функцыянавання рэпрэсіўнага механізма, які прынёс гора і пакуты практычна ў кожную беларускую сям'ю.

Гэтым і іншым праблемам была прысвечана міжнародная навукова-практычная канферэнцыя "Палітычныя рэпрэсіі на Беларусі ў XX стагоддзі", што адбылася нядаўна ў Мінску. Арганізатарамі канферэнцыі выступілі Беларускі Хельсінкскі камітэт і Беларуская асацыяцыя ахвяр палітычных рэпрэсій.

Аб увазе да канферэнцыі сведчыць тое, што ў яе рабоце прынялі ўдзел звыш 150 чалавек, якія прадстаўлялі Беларусь, Расію, Украіну, Літву, Польшчу, Германію. На працягу двух дзён работы канферэнцыі выступіла больш за 40 дакладчыкаў.

Найбольш значная інфармацыя па праблемах даследавання рэпрэсій на тэрыторыі Беларусі прагучала ў дакладах: Тацціны Процька "Палітычныя рэпрэсіі на Беларусі: гісторыя, метадалогія і перспектывы", Леаніда Лыча "Масавыя рэпрэсіі і іх уплыў на культуру нацыянальных меншасцей", Мікалая Iлькевіча "Сумеснае выкарыстанне ў навуковых мэтах крымінальных спраў знятага фонду аператыўных архіваў тэрытарыяльных органаў Федэральнай службы бяспекі Расіі", Аляксандра Гур'янава "Масавыя рэпрэсіі ў заходніх абласцях БССР у 1939—1941 гадах і некаторыя пытанні рэабілітацыі пацярпелых", Міхаіла Токарава "Вучоныя Акадэміі навук — ахвяры палітычных рэпрэсій 30-х—40-х гадоў", Аляксея Літвіна "Аб пытанні аб палітычных рэпрэсіях на Беларусі ў гады другой сусветнай вайны", Антоні Галінскага "Да праблемы ліквідацыі турмаў НКУС на Беларусі", Магдалены Бломбергавай "Археалагічны аспект даследаванняў у Катыні, Медным і Харкаве".

Шэраг дакладаў быў прысвечаны савецкаму і постсавецкаму перыяду рэпрэсій. З вялікай цікавасцю выслухалі прысутныя паведамленні Аляксандра Лукашука "Сакрэтныя архівы ў посткамуністычнай Еўропе: заканадаўства і грамадская практыка", Валянціна Гефтара "Праследаванне палітычных апанентаў — рэцыдыў мінулага ці новая норма", Валерыя Карбалевіча "Палітычныя рэпрэсіі 90-х гадоў: тэндэнцыі і асаблівасці", Валерыя Косткі "Спецслужбы ў сістэме дзяржаўнага кіравання".

У дакладах прагучала шмат лічбаў. У прыватнасці, па афіцыйнай статыстыцы, на тэрыторыі Беларусі было рэпрэсіравана каля 600 тысяч, а па даных шэрагу даследчыкаў, толькі на тэрыторыі рэспублікі ў 20-я—50-я гады было рэпрэсіравана не менш чым 930 тысяч чалавек. З улікам тых, хто быў рэпрэсіраваны за межамі краіны, гэтая лічба складае каля 1,5 мільёна ўраджэнцаў Беларусі.

Асабліва трагічна выглядае гэтая лічба на фоне выказванняў, якія ўсё часцей гучаць, у тым ліку і на высокім дзяржаўным узроўні, аб тым, нібыта рэпрэсіі на тэрыторыі Беларусі не насілі такога масавага характару. У ходзе дыскусіі жорсткай крытыцы і асуджэнню падвергліся публікацыі прафесара А. Залескага "Масавыя рэпрэсіі ў параўнаўча-гістарычным асвятленні", што з'явіліся ў кастрычніку 1997 года ў "Народнай газеце". Па гэтым пытанні была прынята спецыяльная рэзалюцыя канферэнцыі.

Не абышлі вучоныя і праблемы вывучэння рэпрэсій супраць ураджэнцаў Беларусі ў ГУЛАГу НКУС, паўторна прыцягнутых да крымінальнай адказнасці за так званыя "контррэвалюцыйныя злачынствы", мабілізаваных у дзеючую армію ў 1941—1943 гадах з лагераў і спецпасёлкаў у штрафныя батальёны, якія трапілі ў палон у гады вайны і потым апынуліся ў савецкіх лагерах і турмах, членаў сямей "ворагаў народа", "здраднікаў Радзімы" і іншых катэгорый грамадзян, якія сталі ахвярамі беззаконнасці.

Асобая ўвага была нададзена разгляду ходу працэсу рэабілітацыі і аднаўлення правоў рэпрэсіраваных грамадзян. Адзначалася, што цяпер у Беларусі рэабілітавана звыш 200 тысяч чалавек, асуджаных судовымі і несудовымі органамі ў 20-я—50-я гады, і не больш 50 тысяч рэпрэсіраваных у адміністрацыйным парадку, што складае каля 40 працэнтаў ад агульнай колькасці рэпрэсіраваных у рэспубліцы.

На канферэнцыі адбылася прэзентацыя новай дакументальнай кнігі "Канвеер смерці", што выйшла ў выдавецтве "Наша ніва", і была адкрыта выстава, прысвечаная памяці ўраджэнцаў Беларусі, якія сталі ахвярамі палітычнага тэрору.

У ходзе дыскусіі было разгледжана многа прынцыпова важных пытанняў, вырашэнне якіх можа рэальна паўплываць на больш глыбокае вывучэнне праблем масавых рэпрэсій, паскорыць працэс рэабілітацыі, увекавечыць памяць ахвяр тэрору, аказаць рэальную дапамогу пацярпелым і членам іх сем'яў на дзяржаўным узроўні. Гэтыя і іншыя канкрэтныя прапановы адзначаны ў рэзалюцыі, прынятай удзельнікамі канферэнцыі. Па выніках работы канферэнцыі апублікаваны зборнік матэрыялаў "Палітычныя рэпрэсіі на Беларусі ў XX стагоддзі".

Ігар КУЗНЯЦОЎ.

# КОНЬ ЯК КРЫНІЦА ВАЛЮТЫ

(Заканчэнне. Пачатак на 1-й стар.).

кай рысістай пароды. Маюцца селекцыйныя масівы гановерскай, будзёнаўскай, тарыйскай, украінскай верхавой парод. Конегадоўля развіваецца ў чатырох напрамках — племянная, спартыўная, рабоча-карыстальная і прадукцыйная мясная. Не так даўно спецыяльная камісія разглядала магчымасць зацвярджэння новай, беларускай, пароды коней. Ужо прайшла яе апрабацыя, і ёсць усе падставы меркаваць, што ў бліжэйшы час зацвярджэнне адбудзецца. Свая парода — гэта яшчэ і пытанне прэстыжу для краіны, тым больш, што як пародная група беларускія коні існуюць яшчэ з даваенных часоў.

Добра зарэкамендавалі сябе коні спартыўнага накірунку на рэспубліканскіх і міжнародных спаборніцтвах. Апошнім часам усё больш і больш увагі надаецца пытанням экспарту коней. Попытам карыстаюцца як спартыўныя і прагулачныя коні, так і коні мясной пароды. У якасці прагулачных пакупнікі набываюць і коней беларускай вупражнай пароды. Экспарт коней з'яўляецца нядрэннай крыніцай валюты. Добры прагулачны конь абыдзецца пакупніку прыкладна ў 1 000—1 200 долараў, спартыўны конь можа каштаваць да 15 тысяч долараў. Конь алімпійскага класа каштуе прыкладна 50 тысяч долараў і вышэй, аднак такіх коней з краіны стараюцца не выпускаць.

Пакупнікамі беларускіх коней у асноўным з'яўляюцца іншаземцы, гэта абумоўлена і высокай цаной каня, і тым, што ён патрабуе пастаяннага догляду і дадатковых расходаў, якія сёння вельмі высокія. Для прыкладу скажам, што ўтрыманне каня ў маскоўскім конна-спартыўным комплексе "Бітца" каштуе гаспадару 300 долараў у месяц. Аднак і там сярод 200 коней сёння толькі 50 належаць прыватным асобам, прычым, імёны ўладальнікаў трымаюцца ў строгай тайне. І хаця ў Беларусі гэта захапленне крыху таннейшае, пакупка і ўтрыманне каня па кішэні нямногім. Адсутнасць сродкаў стрымлівае ад набыцця каня не толькі прыватных аматараў верхавой язды — далёка не кожная гаспадарка можа дазволіць сабе пакупку вытворніка, зрэшты, у такіх выпадках пытанні часта вырашаюцца шляхам абмену раўнацэнных жарабцоў альбо абмену на лес, кармы і г. д. Буйныя конегадоўчыя гаспадаркі, такія, як размешчанае пад Магілёвам аб'яднанне сялянскіх гаспадарак "Палачаны", якое гадуе коней гановерскай пароды, сёння поўнасцю сябе акупляе. Развядзенне і продаж маладняку дазволілі сіламі гаспадаркі пабудаваць канюшні, вялікі спартыўны манеж, гасцініцу. Цяпер там аказваюцца паслугі па пракату коней, якімі карыстаюцца не толькі беларусы, але і турысты з Расіі. Развіваецца конны турызм і ў калгасе імя Кірава Ганцавіцкага раёна, дзе апрача пракату коней, існуе яшчэ і прафілакторый.



Вытворнікаў для беларускай конегадоўлі сёння закупляюць у Расіі. Цікавасць выклікаюць такія пароды, як савецкі цяжкавоз і рускі цяжкавоз, які быў закуплены спецыяльна для Мсціслаўскага конезавода, дзе коні гэтай пароды разводзяцца ўжо даўно і маюць патрэбу ў асвяжэнні крыві. Купляюцца вытворнікі і для спартыўных ферм.

Цікавасць да беларускіх коней праяўляюць у першую чаргу Германія, Польшча, Чэхія і Славенія. У нямецкіх пакупнікоў вялікім попытам карыстаюцца спартыўныя коні тракененскай пароды, якая стваралася ў Германіі, адтуль, уласна, і былі вывезены роданачальнікі беларускага пагалоўя. Нямала беларускіх спартыўных коней сёння набываюцца Расіяй, супрацоўніцтва з якой нашым каняводам вельмі выгаднае. Сваіх іпадромаў у Беларусі няма, і да пачатку перабудовы беларускіх рысакоў для выпрабаванняў адпраўлялі ў Адэсу, Маскву, Кіеў. Сёння гэта пад сілу далёка не кожнай гаспадарцы, між тым, паказ магчымасцей каня, яго спартыўных вынікаў уплывае як на яго цану, так і на рэйтынг конезавода ў цэлым. Будаўніцтва ж свайго іпадрома, на думку спецыялістаў, у Беларусі сёння проста нерэнтабельнае, таму што іпадром прыносіць прыбытак толькі ў тым выпадку, калі ў яго ўкладваюцца вялікія грошы.

Мясная конегадоўля ў краіне развіваецца нядаўна, яе традыцыі тут папросту адсутнічалі. Аднак конь пры добрых кармах дае прыбаўленне ў вазе значна большае, чым буйная рагатая жывёла, для яго гадоўлі ў асноўным выкарыстоўваецца нагул, які не патрабуе вялікіх затрат, і гаспадаркі з трывалай кармавой базай арганізоўваюць адкорм коней, што дае добры вынік, і мясная конегадоўля становіцца даволі прыбытковай справай. Сёння гэты напрамак сур'ёзна развіваецца ў калгасе "Кастрычнік" Гродзенскай вобласці, дзе былі спецыяльна закуплены коні мясных парод. На сёння заключаны доўгатэрміновы кантракт на пастаўку коней мясных парод з італьянскай фірмай "Джорджы". Як правіла, коні гэтых парод важаць 350—400 кілаграмаў, помесі з цяжкавозамі бываюць і па 500—600 кілаграмаў. Штогод на экспарт ідзе да 2 500 мясных коней. Згодна з дагаворанасцямі, гаспадаркі дастаўляюць коней да Брэста, дзе іх узважваюць, вызначаюць катэгорыю і перагружаюць у італьянскі транспарт. У сваю чаргу, у Італіі займаюцца раздзелкай туш, якія потым ахвотна купляюцца Японіяй і іншымі краінамі.

Цяпер вывучаецца магчымасць вытворчасці кабылінага малака, якое з'яўляецца каштоўным прадуктам для вырабу дзіцячага харчавання. Сухое кабылінае малако закупляецца заходнімі фірмамі ў дзяржавах Сярэдняй Азіі, якое з'яўляецца для гэтых краін пастаяннай і надзейнай крыніцай валюты. Некаторы час назад кумыс выраблялі ў саўгасе-камбінаце "Мір" Баранавіцкага раёна, аднак такая вытворчасць звязана з мноствам праблем, якія сёння ў Беларусі могуць аказацца невырашальнымі.

Спецыялістаў-ветэрынараў і заатэхнікаў з вышэйшай адукацыяй па спецыялізацыі "конегадоўля" ў Беларусі рыхтуе Віцебская ветэрынарная акадэмія і Рэчыцкі тэхнікум. Яшчэ адна праблема, вырашыць якую крыху складаней, — якасны рыштунак для коней. Аброць і збруя бываюць рознымі, і сёння ў Расіі добрае сядло каштуе ад тысячы да трох тысяч долараў. У Беларусі цэны, на шчасце, крыху ніжэйшыя, а вытворчасцю рыштунку для коней займаецца Бешанковіцкая рымарская фабрыка, Шчучынская фабрыка абознага інвентару, а таксама мінскае ПКФ "Белая грыва".

**Вераніка ЧАРКАСАВА.**






# ЗЯМЛЯ СЛЫННЫХ ЛЮДЗЕЙ

(Заканчэнне. Пачатак на 1-й стар.).

Дзмітрый Грышкевіч, дырэктар ствараемага краязнаўчага музея.

— Музей стане навукова-даследчай, культурна-адукацыйнай і выхаваўчай установай, — гаворыць ён. — Галоўная наша задача — збор, навуковая апрацоўка і аднаўленне нерухомых і рухомых гісторыка-культурных каштоўнасцяў, стварэнне экспазіцый і выстаў, якія будуць спрыяць выхаванню нацыянальнай свядомасці грамадзян.

Ужо сабрана шмат каштоўных экспанатаў, звестак пра мінулае і сучаснае горада і раёна. У X стагоддзі Валожын уваходзіў у склад Полацкага княства, а пасля вядомай бітвы князя Міндоўга з татара-манголамі ў 1242 годзе адышоў да Вялікага Княства Літоўскага. Першыя летапісныя ўпамінанні пра Валожын адносяцца да XIV стагоддзя. Пазней ён належаў розным магнатам.

На Валожыншчыне захавалася 88 помнікаў гісторыі, 23 — археалогіі, 28 — архітэктуры, 5 палацава-паркавых ансамбляў, 2 сядзібныя паркі. У Беларусі не шмат гарадоў, у якіх захавалася пяць помнікаў архітэктуры класіцызму першай паловы мінулага стагоддзя. У 1806 годзе пабудаваны палацавы комплекс графа Тышкевіча, у 1816 — касцёл святога Юзафа, потым — сінагога, будынак яўрэйскай акадэміі, царква Канстанціна і Алены.

З горадам і раёнам звязана жыццё многіх выдатных дзеячаў. У Вішневе працаваў Сымон Будны — першадрукар, гуманіст, пісьменнік, асветнік.

Больш за чатыры дзесяцігоддзі ў Малой Люцінцы жыў заснавальнік новай беларускай літаратуры, стваральнік беларускага нацыянальнага тэатра Вінцэнт Дунін-Марцінкевіч. Тут ён напісаў свае лепшыя творы — "Пінская шляхта", "Гапон" і іншыя.

У Валожыне нарадзіўся паэт, фальклярыст, публіцыст Стары Улас. Друкаваўся ў Купалавай "Нашай ніве", іншых дэмакратычных выданнях. Родам з Вішнева жонка Янкі Купалы Уладзіслава Луцэвіч. У Мішанах пачаў працаваць педагогам Кандрат Крапіва.

Пятро Бітэль таксама звязаў свой лёс з Вішневам. Пісаў свае вершы, перакладаў з польскай мовы, у тым ліку "Пана Тадэвуша", "Гражыну" Адама Міцкевіча. Друкаваў краязнаўчыя нарысы пра Вішнева, Баруны, іншыя вёскі Валожынскага раёна.

Былы маёнтак Багданава — родная мясціна слыннага мастака Фердынанда Рушчыца. Ён праявіў сябе ў жывапісе, графіцы, працаваў тэатральным дэкаратарам, педагогам.

З былога маёнтка Адамарын пайшлі ў вялікі свет браты Дубоўскія. Бенядзікт Іванавіч — біёлаг, член-карэспандэнт АН СССР. Уладзімір Іванавіч — батанік, заолаг, доктар мінералагічных навук. У Сакаўшчыне нарадзіўся Віктар Каваленка, акадэмік, у Вялікай Дайнаве — Іван Ліштван, акадэмік, у пасёлку станцыі Багданава — Анатоль Яблонскі, доктар матэматычных навук.

Спіс вядомых людзей можна прадаўжаць і прадаўжаць. Валожыншчына дала іх шмат. Яны



ўславілі свой край, прынеслі Беларусі вялікую карысць.

Нельга абысці яшчэ адну славутасць — яўрэйскую духоўную акадэмію. Як Мір стаў "цыганскай сталіцай", так і Валожын стаў свайго роду "яўрэйскай сталіцай" на Беларусі, і не толькі. Справа ў тым, што ў Валожыне жыло шмат яўрэяў.

І ў 1803 годзе адкрылі тут ешыву, вучэльню для яўрэяў. З яе выйшлі многія вядомыя вучоныя, пісьменнікі, равіны, у тым ліку сучасныя палітычныя дзеячы Ізраіля. Вучыцца ў акадэмію прыязджала моладзь з Англіі, Егіпта, Аўстраліі, Амерыкі і іншых краін. У 1892 годзе акадэмія атрымала агульны статус народных яўрэйскіх школ, але Валожын яшчэ доўга называлі "Рымам літоўскіх яўрэяў".

Што тычыцца эканомікі, то ў горадзе ніколі не было вялікіх прадпрыемстваў. Няма і цяпер. Існуюць толькі дробныя, што працуюць на патрэбы мясцовых жыхароў.

**Мікалай ДЗЕЛЯНКОЎСКІ.**

**НА ЗДЫМКАХ: сучасны Валожын.**

**Фота Віктара СТАВЕРА.**

**НАМІНАЦЫІ**

# З РОДУ ГАРЭЦКІХ

Міжнародная арганізацыя Амерыканскі Біяграфічны Інстытут прысвоіў ганаровае званне "Чалавек года 1997" акадэміку Радзіму Гарэцкаму.

Адначасова такое ж паведамленне Радзім Гаўрылавіч атрымаў з Міжнароднага Кембрыджскага біяграфічнага цэнтра ў Англіі, які таксама надаў яму званне "Міжнародны чалавек года 1997—1998".

Гэты ж цэнтр вылучыў кандыдатуру акадэміка Гарэцкага на прысваенне яшчэ больш прэстыжнай узнагароды "За дасягненні 20-га стагоддзя". Гэтая ўзнагарода арыгінальная тым, што не можа быць паўторана на працягу ста гадоў. Яна надаецца толькі строга абмежаванаму колу знакамітых людзей з 80 краін свету за асабістыя заслугі ў галіне іх дзейнасці.

Высокага прызнання ў міжнародным плане акадэмік Гарэцкі заслужыў сваёй шматгадовай навуковаю працаю ў галіне геалогіі. Ён акадэмік НАН Беларусі, замежны член Расійскай АН, доктар геолага-мінералагічных навук, прафесар, заслужаны дзеяч навукі Рэспублікі Беларусь, лаўрэат Дзяржаўнай прэміі СССР, Дзяржаўнай прэміі БССР, прэміі РАН імя акадэміка М. С. Шацкага. На працягу 17 гадоў быў дырэктарам Інстытута геалагічных навук Акадэміі навук Рэспублікі Беларусь, цяпер яго ганаровы дырэктар. Пяць апошніх гадоў з'яўляўся віцэ-прэзідэнтам Акадэміі навук Беларусі, член Амерыканскага геафізічнага Саюза, Беларускага геалагічнага таварыства.

Навуковыя працы яго прысвечаны тэктоніцы і геадынаміцы платформ, уключаючы тэорыю захаду Усходне-Еўрапейскага крэтону і Беларусі. Найбольш поўна апісаў і даў класіфікацыю своеасаблівых геалагічных цел — кластычных даек. Унёс істотны ўклад у тэктанічны аналіз магутнасцей адкладанняў. Развіў шматлікія аспекты вучэння пра тэктоніку платформ: праблемы спадчыннасці і наваўтварэння, тыпы і класіфікацыі структур, разломы, стадыйнасць развіцця, некампенсаванае прыгінанне і інш. Прааналізаваў асаблівасці будовы і развіцця кантынентальных палеарыфтаў, у прыватнасці, на прыкладзе Прыпяцкага прагібу даказаў лістрычны характар фарміруючых яго разломаў. Удзельнічаў у складанні шматлікіх тэктанічных карт. Распрацаваў новы прынцып тэктанічнага раяніравання платформенных абласцей па асноўнаму этапу фарміравання структур.

Сп. Гарэцкі з'яўляецца і вядомым грамадскім дзеячам. У 1993 годзе на Першым з'ездзе беларусаў свету ён быў абраны прэзідэнтам Згуртавання беларусаў свету "Бацькаўшчына" і на Другім з'ездзе ў 1997 годзе ізноў пераабраны на гэту ганаровую пасаду. Радзім Гаўрылавіч узначальвае і яшчэ адну грамадскую арганізацыю — Фонд братоў Гарэцкіх. Гэтым ён прадаўжае сваю сямейную справу. Шаноўны акадэмік паходзіць са знакамітага ў Беларусі роду. Яго дзядзька — пісьменнік Максім Гарэцкі, а бацька — Гаўрыла Гарэцкі, знакаміты беларускі навуковец у галіне эканамічнай геаграфіі і геалогіі. Дзейнасць самога Радзіма Гаўрылавіча дастойна працягвае традыцыі яго роду.

# Георгій КАНІСКІ: «17 ГОД ЗМАГАЎСЯ Я З ВАЎКАМІ»

**(Заканчэнне. Пачатак на 1-й стар.).**

У 1754 годзе памёр магілёўскі епіскап Іеранім Валчанскі, які стаяў на чале адзінай у Рэчы Паспалітай праваслаўнай епархіі. Абставіны патрабавалі, каб на чале яе стала яркая, арыгінальная, адукаваная і моцная асоба. Выбар прыпаў на Георгія Каніскага, выдатнага палеміста, прамоўцу, чалавека дужай волі і ўсебакова адукаванага. Так, у 1755 годзе ён стаў епіскапам магілёўскім, узначаліў Магілёўскую праваслаўную епархію.

З першых дзён свайго знаходжання на гэтай пасадзе Каніскі пачаў барацьбу супраць палітыкі дыскрымінацыі ў адносінах да праваслаўнага насельніцтва Беларусі. Ён імкнуўся ўсяляк павысіць агульнаадукацыйны ўзровень праваслаўнага духавенства, абнавіць цэрквы, адкрываць школы для праваслаўных, друкарні, выступаў супраць абмежавання правоў насельніцтва па рэлігійных прыкметах, у выніку якога нават дваране не маглі атрымаць доступ да дзяржаўных пасад, палітычнай дзейнасці.

Асветніцкая і праваахоўная дзейнасць Каніскага раззлавала яго рэлігійных апанентаў, пачаліся выпадкі замаху на яго жыццё. Аднойчы ў Оршы яму ледзь удалося выратавацца ў сценах Куцеінскага манастыра ад вострых шабляў рэлігійных фанатыкаў. Другі раз натоўп, кіруючыся зноў-такі рэлігійнымі інстынктамі, напаў ноччу ў Магілёве на архірэйскі дом (які, дарэчы, добра захаваўся да нашых дзён), дзе жыў Каніскі, маючы мэтай фізічную расправу з епіскапам.

Каніскаму ўдалося выратавацца, схаваўшыся ў падвале свайго дома.

У 1762 годзе ад імя ўсіх дысідэнтаў Рэчы Паспалітай ён звярнуўся да Сінода (з'езда епіскапаў Рэчы Паспалітай) са скаргай на рэлігійныя ганенні дысідэнтаў. Скарга гэтая засталася без увагі, аднак яна вылучыла Каніскага ў шэрагі бясспрэчных лідэраў праваахоўнай думкі Рэчы Паспалітай сярэдзіны XVIII стагоддзя.

Асаблівая актыўная праваахоўная дзейнасць Каніскага пачалася ў першыя гады праўлення апошняга караля Рэчы Паспалітай — Станіслава Аўгуста Панятоўскага, выбранага ў 1764 годзе (каранаваны 25 лістапада 1764 года).

Неўзабаве пасля выбрання С. Панятоўскага каралём Каніскі выехаў з Магілёва ў Варшаву і 27 ліпеня 1765 года сказаў на лацінскай мове перад новым каралём палымяную прамову ў абарону правоў дысідэнтаў (больш дакладна, дызуніятаў, праваслаўных, якія не прынялі унію). "Мы цалкам упэўнены ў тым, — заявіў Каніскі ад імя дысідэнтаў каралю, — што ты вярхоўнай уладаю сваёй, усемілацівая загадаеш вярнуць нам і сумленню нашаму ранейшую свабоду".

Прамова Каніскага спадабалася каралю. Ён паабяцаў, што ўсе правы праваслаўных (дызуніятаў) дысідэнтаў увогуле, якімі яны карысталіся ў мінулым, будуць адноўлены. Прамова Каніскага, што адпавядала духу веку Асветы, прынесла яму еўрапейскую вядомасць. Неўзабаве яна была перакладзена з лацінскай на многія еўрапейскія мовы (англійскую, французскую, нямецкую) і атрымала шырокае распаўсюджанне як узор абароны верацярпімасці.

Пасля сустрэчы з каралём Каніскі застаўся ў Варшаве, каб сабраць неабходныя крыніцы, якія пацвярджалі ўшчамленне правоў дысідэнтаў, а таксама свабоды, якімі яны карысталіся раней. Ён многа працаваў у архівах, вывучаў грамадзянскую гісторыю, заканадаўства Рэчы Паспалітай, а таксама пастанвы палемізаваў з католікамі і уніятамі. У выніку ён прадставіў каралю мемарыял з апісаннем былых свабод дысідэнтаў. Гэтая работа Каніскага была выдадзена ў Пецярбургу пад назвай "Правы дысідэнтаў".

У 1766 годзе ў Варшаве сабраўся чарговы (ардынарны) сейм. Пад дыпламатычным ціскам Расіі і Прусіі кароль звярнуўся да паслоў сейма з просьбай ураўнаваць у правах дысідэнтаў з католікамі. Аднак сейм адхіліў просьбу караля. Тады дысідэнты ў знак пратэсту стварылі ў 1767 годзе дзве канфедэрацыі: праваслаўную ў Слуцку і пратэстанцкую ў Торуні. Першую падтрымлівала Расія, другую — Прусія. Адным з галоўных арганізатараў Слуцкай канфедэрацыі быў Каніскі. У Радоме была створана канфедэрацыя каталіцкай шляхты, на чале якой стаў беларускі магнат Кароль Радзівіл (1734—1790), празваны Пане Каханку. Яна таксама падтрымлівала патрабаванні дысідэнтаў.

Імкнучыся пазбегнуць грамадзянскай вайны, кароль Рэчы Паспалітай аб'явіў аб скліканні (у тым жа 1767 годзе) у Варшаве надзвычайнага сейма. Пачатак яго працы быў назначаны на восень 1767 года. Напярэдадні адкрыцця сейма ў Варшаве на польскай мове выйшаў у свет твор Каніскага пад доўгай назвай: "Правы і свабоды дысідэнтаў хрысціянскага веравызнання Каралеўства Польскага і Вялікага княства Літоўскага, што вынікаюць з прынятых сеймамі законаў і Статута Вялікага княства Літоўскага, а таксама іншых заканадаўчых актаў, што не выклікаюць сумнення, сабраныя і выдадзеныя для ўсеагульнага ведама".

У ім у храналагічным парадку былі сабраны і пракаменціраваны ўсе заканадаўчыя акты, што пацвярджалі ранейшую роўнасць правоў дысідэнтаў і католікаў у Рэчы Паспалітай. Кніга ўтрымлівала таксама факты, якія пацвярджалі дыскрымінацыю часткі насельніцтва Рэчы Паспалітай па рэлігійных адзнаках, ушчамленне правоў хрысціян-некатолікаў. Кніга Каніскага, якая развівала палажэнні, выкладзеныя раней у прамове і мемарандуме, напярэдадні надзвычайнага сейма набыла асаблівую актуальнасць. Яна стала праграмай барацьбы хрысціян-некатолікаў за ўраўноўванне іх правоў з большасцю каталіцкага насельніцтва краіны.



Ба 549

**Собраніе сочиненій**

**ГЕОРГІЯ КОНИСКАГО,**

АРХІЕПИСКОПА БѢЛОРУССКАГО,

*Изд. Протоіереемъ Іоанномъ Григоровичемъ.*

ЧАСТЬ ВТОРАЯ.

САНКТПЕТЕРБУРГЪ.

Печатано въ типографіи Императорской Россійской Академіи.

1835.

Надзвычайны сейм пачаў працу ў Варшаве 5 кастрычніка 1767 года. Аднак замест адведзеных на яго правядзенне па традыцыі двух тыдняў зацягнуўся на некалькі месяцаў. (Ён скончыў работу толькі ў наступным 1768 годзе). Праблема дысідэнтаў стала прадметам гарачых і доўгіх сеймавых дэбатаў. Упарта праціўвіліся ўраўноўванню ў правах дысідэнтаў з католікамі іерархі каталіцкай царквы, магнаты, а таксама часта каталіцкай шляхты.

Тады пасол Расіі ў Рэчы Паспалітай Н. Рэпнін (1734—1801) з ведама і дазволу караля загадаў ноччу арыштаваць некалькі найбольш актыўных паслоў сейма, якія былі супраць прыняцця патрабаванняў дысідэнтаў, і вывезці іх у глыб Расіі. У ліку арыштаваных былі кракаўскі епіскап Каэтан Солтык, кіеўскі епіскап Юзаф Залускі, гетман Вацлаў Ржэвускі і інш. Сілавыя метады дзеянняў рускага дыпламата тлумачацца тым, што ў пачатку 1767 года ў Рэч Паспалітую былі ўведзены рускія войскі пад маркай абароны правоў дысідэнтаў.

Арышт рэакцыйных паслоў сейма падзейнічаў. Сейм ураўнаваў у правах хрысціян-некатолікаў з католікамі. Рашэнні сейма замацаваў Варшаўскі дагавор 1768 года паміж Расіяй і Польшчай, падпісаны 6 сакавіка 1768 года. Па дагавору дысідэнты атрымлівалі правы, аднолькавыя з католікамі. Як адзін з найбольш глыбокіх і аўтарытэтных знаўцаў гэтай важнай праблемы, Каніскі быў назначаны членам змяшанага суда, створанага пасля заканчэння работы сейма для вырашэння спрэчных пытанняў паміж дысідэнтамі і католікамі.

Адразу ж пасля заканчэння сейма супраць караля і Расіі, што падтрымлівала яго, пачалося ўзброенае выступленне часткі магнатаў і шляхты, якое атрымала назву Барскай канфедэрацыі. Назва паходзіць ад горада Бар (цяпер цэнтр Барскага раёна Вінніцкай вобласці Украіны), дзе пачалося выступленне. Барацьба канфедэратаў з войскамі царскай Расіі працягвалася да 1772 года. Падаўленне Барскай канфедэрацыі падрыхтавала глебу для першага падзелу Рэчы Паспалітай (1772 года), які ажыццявілі Аўстрыя, Прусія і Расія. Краіна пазбавілася 30 працэнтаў тэрыторыі і 35 працэнтаў насельніцтва. Землі Магілёўшчыны і Віцебшчыны, населеныя пераважна праваслаўнымі, былі інкарпараваны ў склад Расійскай імперыі. Так закончыўся 17-гадовы перыяд праваахоўнай дзейнасці Каніскага ў Рэчы Паспалітай (1755—1772), аб якім архіепіскап у эпітафіі, якую стварыў пазней сам, пісаў: "17 гадоў змагаўся я з ваўкамі". Сапраўды, гэта былі гады барацьбы, у час якіх яго жыццё праваздаступніка неаднаразова падвяргалася смяротнай небяспецы з боку рэлігійных фанатыкаў, яны пагражалі Каніскаму фізічнай расправай. Называючы рэлігійных фанатыкаў "ваўкамі", Каніскі, як прыхільнік талерантнасці і верацярпімасці, з павагай ставіўся да каталіцкай царквы і яе вучэння.

Пасля 1772 года, калі частка беларускіх зямель была інкарпаравана ў склад Расійскай імперыі, пачаўся другі перыяд у дзейнасці Каніскага. Як сын свайго часу — веку Асветы, Каніскі быў прыхільнікам асветнага абсалютызму, г. зн. прыхільнікам рэфармавання грамадскага і дзяржаўнага ладу Расійскай імперыі шляхам своечасова праведзеных рэформ зверху "дасведчаным манархам", увасабленнем якога для яго з'яўлялася Кацярына II. У творах перыяду 70-х—90-х гадоў ён патрабуе змякчэння феадальнай эксплуатацыі, згладжвання найбольш вострых сацыяльных супярэчнасцяў, усталявання ў сучаснай яму дзяржаве правапарадку і законнасці.

У сваіх прамовах і пропаведзях ён крытыкаваў дзейнасць сучасных яму дзяржаўных устаноў, асабліва судоў.

Адлюстроўваючы выкрывальную накіраванасць духоўна-асветніцкай творчасці беларускага архіепіскапа, яго крытычныя адносіны да сацыяльных і палітычных інстытутаў таго часу, выдавец літаратурнай спадчыны Каніскага ў якасці эпіграфа да збору яго твораў узяў (справядліва) словы з 118-га псалма "Псалтыра": "Буду говорить об откровениях Твоих пред царями, и не постыжусь" (118,46).

Прырода шчодра надзяліла Каніскага рознымі талентамі, якія ярка праявіліся ў самых розных галінах: філасофіі, багаслоўі, царкоўным красамоўі, паэзіі, драматургіі, гісторыі, палітыцы і г. д. Зразумела, сёння многае са створанага Каніскім, які жыў амаль тры стагоддзі назад, стала здабыткам гісторыі. Але некаторыя працы беларускага архіепіскапа перасягнулі межы яго часу, працягваюць захоўваць сваё актуальнае гучанне. Гэта перш за ўсё работы Каніскага, прысвечаныя палітыка-прававым праблемам. Менавіта на іх, як на адну з самых значных каштоўнасцей духоўнай спадчыны Каніскага, указаў яшчэ ў свой час вялікі А. Пушкін. У 1835 годзе, калі ў Санкт-Пецярбургу ўпершыню ў 2-х тамах былі выдадзены творы Каніскага, сярод якіх былі і некаторыя яго палітычныя працы, вялікі рускі паэт у сваім водгуку аб іх прадбачліва заўважыў, што "палітычныя прамовы яго (Каніскага. — **В. Ш.**) маюць вялікую вартасць". Менавіта за палітычныя погляды і дзейнасць А. Пушкін назваў беларускага архіепіскапа адным "из самых достопамятных мужей минувшего (г. зн. XVIII. — **В. Ш.**) столетия".

І сёння палітыка-прававыя работы Каніскага могуць служыць выхаванню верацярпімасці, талерантнасці, плюралізму ў нашым поліканфесійным грамадстве. Таму было б вельмі карысна і справядліва перавыдаць некаторыя работы Каніскага, прысвечаныя палітыка-прававым праблемам.

**Вячаслаў ШАЛЬКЕВІЧ,**
**доктар філасофскіх навук, прафесар.**

НАШЫ СЛАВУТЫЯ ЗЕМЛЯКІ

# ГЕРОЙ ПЛЕЎНЫ І ШЫПКІ



Разам з балгарскім народам сёлета мы адзначылі 120-годдзе з дня вызвалення Балгарыі ад асмана-турэцкага ярма. Агульнавядомыя падзеі, звязаныя з вызваленчай барацьбой братняга народа супраць пяцісотгадовага прыгнечання, сталі блізкімі для Расіі.

У гераічнай эпапеі ўдзельнічала нямала сыноў беларускай зямлі. У іх гонар на Мінскіх ваенных могілках узведзены храм-помнік Аляксандра Неўскага, на сценах якога вісіць мемарыяльная дошка з прозвішчамі беларускіх воінаў, што аддалі сваё жыццё за вызваленне Балгарыі ад турэцкага ярма.

Дарэчы, адным з самых праслаўленых военачальнікаў рускай арміі, які вызначыўся ў многіх баявых аперацыях у вайне супраць Турцыі, быў наш зямляк, ураджэнец Віцебшчыны Іван Гурко. Ён у чыне генерал-лейтэнанта камандаваў перадавым атрадам рускай арміі і праявіў у баях выдатны талент палкаводца.

З нагоды цяперашняга юбілею варта прыгадаць яшчэ адно слаўнае імя — Канстанцін Хруцкі.

У 1873 годзе ён паступіў у Маладзечанскую настаўніцкую семінарыю. Але вучобу неўзабаве давялося спыніць: Канстанціна прызвалі на ваенную службу. Залічылі яго ў Праабражэнскі полк, з якім нядаўні семінарыст і трапіў на Балканы. Канстанцін Хруцкі ўдзельнічаў у баях за Варну, хадзіў у разведку, прыносіў каштоўныя звесткі аб праціўніку.

Ён першы ўварваўся ў асаджаную крэпасць Плеўна, быў паранены, але поле бою не пакінуў. За смелыя дзеянні ў баях за крэпасць К. Хруцкі быў узнагароджаны медалём "За вызваленне Плеўны".

Потым былі зацяжныя баі на горных перавалах, штурм Шыпкі. І тут напорыста і смела змагаўся наш зямляк. За асабістую храбрасць ён быў узнагароджаны двума Георгіеўскімі крыжамі.

Пасля вызваленчай вайны ён зноў вярнуўся ў Маладзечна, каб закончыць вучобу ў настаўніцкай семінарыі. Потым трыццаць гадоў працаваў вясковым настаўнікам.

У пачатку першай сусветнай вайны ў 60-гадовым узросце Канстанцін Вікенцьевіч з хваляй бежанцаў рушыў на ўсход і апынуўся ў Маскве. Тут у 1917 годзе яго застала Лютаўская рэвалюцыя, у якой ён прыняў самы актыўны ўдзел. Потым дарогі завялі яго ажно ў Омск. Там ветэран уключыўся ў партызанскі рух і змагаўся супраць Калчака. Неўзабаве белагвардзейцы схапілі яго і прыгаварылі да расстрэлу. Але яму суджана было застацца жывым — вызвалілі партызаны.

Некалькі гадоў пасля грамадзянскай вайны Хруцкі працаваў у Сібіры, потым паехаў на сталае жыхарства ў Новарасійск. Там ён уладкаваўся электраманцёрам на цэментным заводзе, дзе працаваў да самай Айчыннай вайны.

Лёс наканаваў яму доўгае і гераічнае жыццё. У 1955 годзе, у сувязі са 100-годдзем з дня нараджэння, Канстанцін Вікенцьевіч быў узнагароджаны ордэнам Дзімітрова і ордэнам Леніна. 114 гадоў пражыў наш зямляк, не дажыўшы 8 гадоў да 100-гадовага юбілею вызвалення Балгарыі ад турэцкага ярма. Памёр ён у лютым 1969 года. З выпадку смерці героя Плеўны ўрад Балгарыі накіраваў савецкаму ўраду пісьмо, у якім гаворыцца: "Для нас, для ўсіх балгарскіх грамадзян Канстанцін Вікенцьевіч назаўсёды застаецца жывым сімвалам вечнай і непарушнай дружбы паміж нашымі народамі і краінамі, прыкладам крыштальна чыстай любові, якая натхняла рускіх волатаў на вызваленне сваіх балгарскіх братоў ад пяцівяковага асманскага ярма"...

Малодшы брат героя — Самсон Вікенцьевіч таксама быў доўгажыхаром: пражыў больш за 100 гадоў. Ён удзельнічаў у руска-японскай вайне, асабіста ведаў пісьменніка Новікава-Прыбоя, дапамагаў яму сваімі ўспамінамі ўзнавіць падзеі, якія потым былі пакладзены ў аснову рамана "Цусіма".

Давялося Самсону Вікенцьевічу паваяваць у часы грамадзянскай і Вялікай Айчыннай войнаў.

Ён жыў і памёр у Брэсце.

**Мікола КАПЫЛОВІЧ.**

**НА ЗДЫМКУ: Канстанцін ХРУЦКІ.**

1998-мы – ГОД АДАМА МІЦКЕВІЧА



**Міцкевічаўскія мясціны."Камень філарэтаў".**

**Фота Рамана КАБЯКА.**

# ПАМІЖ ФРАНТАМІ

## БЕЛАРУСЬ У МІЖНАРОДНЫХ АДНОСІНАХ ПАЧАТКУ 1920 ГОДА

19 студзеня 1920 года ЦК КП(б) ЛіБ, заслухаўшы даклад В. Кнорына, прыняў разгорнутыя тэзісы, у якіх ставілася задача падрыхтоўкі да ўсеагульнага ўзброенага паўстання ў Літве і Беларусі. У тэзісах адзначалася, што камуністычныя арганізацыі Літвы і Беларусі павінны дзейнічаць з улікам цеснай залежнасці перамогі камуністычнай рэвалюцыі ў іх краінах і ходу рэвалюцыйнай барацьбы ў Расіі, Польшчы і Германіі. У выпадку прасоўвання Чырвонай Арміі па тэрыторыі Літвы і Беларусі камуністычныя арганізацыі павінны былі захапіць уладу і чакаць прыбыцця савецкіх войск; у выпадку перамогі камуністычнай рэвалюцыі ў Польшчы яны таксама павінны былі пачаць барацьбу за ўладу і не даць магчымасці польскай контррэвалюцыіператварыць Літву і Беларусь у сваю Вандэю; у выпадку перамогі рэвалюцыі ў Германіі рабочыя Літвы і Беларусі павінны былі пачаць паўстанне, з тым каб не даць польскай контррэвалюцыі задушыць рэвалюцыйны рух у Германіі, а таксама спрыяць распаўсюджванню рэвалюцыі на Польшчу і звязаныя з ёю ўскраіны. Разам з тым кіраўнікі кампартыі Літвы і Беларусі выступалі супраць неадкладнага пачатку паўстання, бо лічылі, што ўмовы для паспяховага захопу ўлады яшчэ не склаліся. У сувязі з гэтым усім камуністам Літвы і Беларусі прадпісвалася чакаць "наспявання ўмоў для пераможнага выступлення ў дзяржаўным маштабе" і абмежавацца арганізацыяй "рэвалюцыйнага выступлення і частковых захопаў улады".

Агульныя інтарэсы, якія заключаліся ў неабходнасці выгнання палякаў з Беларусі, падштурхоўвалі камуністычныя арганізацыі краю да супрацоўніцтва з іншымі партыямі і рухамі краю. Найбольш цесныя адносіны склаліся паміж камуністамі Літвы і Беларусі і беларускімі эсэрамі. У снежні 1919 года па ініцыятыве ЦК КП(б) ЛіБ у Смаленску адбыліся перагаворы з прадстаўнікамі Беларускай партыі сацыялістаў-рэвалюцыянераў (БПС-Р), вынікам якіх стала пагадненне аб сумеснай барацьбе за аднаўленне беларускай нацыянальнай дзяржаўнасці. Пытанне пра форму і сацыяльны лад будучай дзяржавы не ставілася і не абмяркоўвалася, аднак удзельнікі перагавораў сышліся на неабходнасі актыўнай абароны сацыяльных інтарэсаў беларускага працоўнага народа. Ад беларускіх эсэраў пагадненне падпісалі П. Бадунова, Я. Мамонька, Я. Трафімаў, М. Асвенцімскі, Ф. Шантыр. Курс на ўстанаўленне ў рэспубліцы "дыктатуры працоўнага народу" быў падтрыманы на з'ездзе БСП-Р, які нелегальна прайшоў у Мінску 4 сакавіка 1920 года. З'езд паставіў задачу барацьбы за незалежную беларускую працоўную сацыялістычную рэспубліку як частку федэрацыі вольных народаў, якая ўзнікне ў выніку перамогі сусветнай рэвалюцыі. Таксама ўдзельнікі з'езда выключылі са складу партыі групоўку на чале з К. Цярэшчанкам і А. Якубоўскім, члены якой лічылі магчымым супрацоўніцтва з палякамі.

Саюз паміж камуністамі і беларускімі эсэрамі аб'ектыўна спрыяў паскарэнню вызвалення Беларусі з-пад польскай акупацыі. БПС-Р карысталася вялікай папулярнасцю ў асяроддзі беларускага сялянства. Увесну 1920 года колькасць яе членаў складала звыш 20 тысяч чалавек, тады як колькасць камуністычных груп на тэрыторыі Беларусі, што знаходзілася на захад ад лініі савецка-польскага фронту, не перавышала 4 тысячы членаў. Пад кантролем БПС-Р знаходзіўся Саюз моладзі, які налічваў 10 тысяч членаў; партыю беларускіх эсэраў падтрымлівалі Беларускі саюз настаўнікаў, прафсаюзы чыгуначнікаў, паштова-тэлеграфных служачых. Беларускія эсэры мелі разгалінаваную сетку партызанскіх атрадаў, якая таксама па колькасці перавышала камуністычны партызанскі рух на беларускай тэрыторыі і па сутнасці стала зародкам беларускай нацыянальнай арміі.

Аднак поўнага паразумення паміж беларускімі камуністамі і беларускімі эсэрамі не адбылося. Уплыў беларускіх эсэраў непакоіў кіраўніцтва кампартыі Літвы і Беларусі, якое прыклала шмат намаганняў, каб аслабіць сваіх саюзнікаў. Не без уздзеяння беларускіх камуністаў ад БПС-Р адышла частка яе прыхільнікаў (у тым ліку У. Ігнатоўскі, А. Сташэўскі, С. Булат, М. Кудзелька (Міхась Чарот). 1 студзеня 1920 года яны на нелегальным з'ездзе ў Мінску абвясцілі аб стварэнні аргцэнтра Беларускай камуністычнай арганізацыі (БКА), які часова прыняў на сябе абавязкі ЦК БКА і заявіў аб прызнанні праграмы і тактыкі РКП(б). У праграмным дакуменце БКА, напісаным Ігнатоўскім і прынятым у лютым 1920 года, указвалася, што арганізацыя "дамагаецца ладу Савецкай Беларускай рэспублікі, спадзеючыся на дапамогу Савецкай Расіі, з якой Савецкая Беларусь знаходзіцца ў федэратыўнай сувязі". У сакавіку 1920 года колькасць членаў БКА дасягнула 2 тысяч чалавек. У сакавіку 1920 года падпольныя арганізацыі Кампартыі Літвы і Беларусі атрымалі ад кіраўніцтва партыі ўстаноўку на нейтралізацыю эсэраў, нягледзячы на пагадненне аб супрацоўніцтве.

Рознагалоссі паміж беларускімі камуністамі і беларускімі эсэрамі падштурхнулі апошніх да ўстанаўлення прамых кантактаў з кіраўніцтвам РСФСР. 6 красавіка 1920 года ў Маскву выехала дэлегацыя беларускіх эсэраў на чале з членам ЦК БПС-Р П. Бадуновай. 8 красавіка ў Маскве пачаліся афіцыйныя перагаворы паміж прадстаўнікамі ЦК РКП(б( і ЦК БПС-Р (члены дэлегацыі БПС-Р сустрэліся з І. Сталіным і М. Красцінскім). Падчас перагавораў Бадунова звярнула ўвагу субяседнікаў на памылкі камуністаў Беларусі ў 1919 годзе, зрабіўшы асобы націск на недапушчальнасць накіравання на Беларусь работнікаў, "зусім чужых для беларускіх працоўных мас". Яна выказала жаданне цесна супрацоўнічаць з расійскімі камуністамі, адзначыўшы: "...Бел[аруская] п[артыя] с[ацыялістаў]-р[эвалюцыянераў] ніколі не забывае, што паўтары сотні год сумеснага палітычнага жыцця і барацьбы з рускім царскім самадзяржаўем збілізілі пралетарыят велікарускі і беларускі, які ў вырашальны момант страшнай барацьбы з польскай і сусветнай буржуазіяй павінен ісці разам нага ў нагу". Ад імя БПС-Р Бадунова прапанавала кіраўніцтву РКП(б) прызнаць урад БНР, утвораны 13 снежня 1919 года, і дапусціць яго прадстаўнікоў на мірныя перагаворы з Польшчай; аднавіць Беларусь у яе этнаграфічных межах, вярнуўшы ў яе склад Віцебскую, Гомельскую і часткі Смаленскай і Чарнігаўскай губерняў з пераважна беларускім насельніцтвам; арганізаваць беларускія "чырвоныя" войскі і сканцэнтраваць іх на тэрыторыі Савецкай Беларусі; паспрыяць нацыянальнай культурна-асветніцкай рабоце ў Савецкай Беларусі; вызваліць усіх членаў БПС-Р, арыштаваных органамі савецкай улады; аказаць матэрыяльную падтрымку ўсім арганізацыям БПС-Р на акупіраванай палякамі тэрыторыі Беларусі, у тым ліку ваенным арганізацыям.

Выкананне гэтых патрабаванняў азначала сур'ёзную палітычную ўступку ў адносінах да беларускіх эсэраў. Прадстаўнікі ЦК РКП(б) вагаліся. Супрацоўніцтва з "мелкабуржуазнымі" партыямі на былых "ускраінах" Расійскай імперыі мела станоўчыя вынікі для справы барацьбы супраць палякаў (напрыклад, падобная тактыка паспяхова прымянялася ў канцы 1919 — пачатку 1920 гадоў на Украіне), аднак, на думку кіраўнікоў РСФСР, беларускія эсэры прасілі замнога. У сувязі з гэтым кіраўнікі РСФСР вырашылі параіцца наконт магчымасці супрацоўніцтва з беларускімі эсэрамі з камуністамі Беларусі і Літвы. Адпаведны запыт быў накіраваны Кнорыну. 28 красавіка Кнорын даў адказ ЦК РКП(б), у якім выразна праводзіў думку пра немэтазгоднасць супрацоўніцтва з БПС-Р. Ён крытыкаваў беларускіх эсэраў за "нацыяналізм" і чарговы раз даказваў, што беларускага нацыянальнага руху не існуе ў прыродзе, звяртаючы ўвагу на тое, што ЦК КП(б) ЛіБ падтрымлівае "фікцыю" такога руху толькі ў сувязі з патрабаваннямі міжнароднага становішча. Іншы погляд у адносінах да перспектыў супрацоўніцтва з беларускімі эсэрамі выказвала кіраўніцтва Заходняга фронту. Так, старшыня РВС фронту І. Уншліхт даводзіў да ведама ЦК РКП(б), што Народная ваенная самаабарона "прымае актыўны ўдзел у арганізацыі дзеянняў паўстанцаў у мясцовасцях, занятых непрыяцелем", хаця лічыў мэтазгоднай расстаноўку на яе ключавых месцах камуністаў.

Пасля азнаямлення з пазіцыяй кіраўнікоў КП(б) ЛіБ і Заходняга фронту ЦК РКП(б) вырашыў адхіліць патрабаванні беларускіх эсэраў, але працягваць супрацоўніцтва з імі ў справе вызвалення Беларусі ад польскіх інтэрвентаў. 29 красавіка 1920 года ЦК КП(б) ЛіБ па распараджэнню ЦК РКП(б) увёў сваіх прадстаўнікоў (Б. Тышкевіча, В. Шаранговіча) у Беларускі паўстанцкі камітэт, які быў створаны беларускімі эсэрамі ў сакавіку 1920 года для кіраўніцтва партызанскім рухам у тыле польскіх войск. Спаслаўшыся на цяжкае становішча на Заходнім фронце, прадстаўнікі РСФСР прапанавалі ўстрымацца ад абмеркавання пытання пра адраджэнне беларускай дзяржаўнасці. У размове з Бадуновай было сказана: "Савецкі ўрад стаіць у прынцыпе за прызнанне незалежнасці ўсім самаазначыўшымся народам. Што да прызнаньня незалежнасьці Беларусі, то гэта залежыць ад палажэньня на мейсцах, гэта значыць — калі народ на мейсцах зажадае незалежнасьці, то незалежнасьць будзе дадзена. Залежыць гэта таксама і ад бягучага палітычнага моманту: калі Польшча будзе настойваць на граніцах 1772 г., то Савецкай Расіі лепей на захадзе гранічыць з незалежнай Беларуссю, як з Польшчай". У сувязі з гэтым удзельнікі перагавораў вырашылі вярнуцца да пытання аб утварэнні Беларускай дзяржавы пры змяненні становішча на фронце. Савецкія прадстаўнікі пагадзіліся вызваліць беларускіх эсэраў, падтрымаць беларускія арганізацыі і дазволіць вядзенне беларускай працы ў Віцебскай, Гомельскай і Смаленскай губернях. Такім чынам, спроба вырашыць пытанне адносна нацыянальна-дзяржаўнага адраджэння Беларусі пры дапамозе расійскіх камуністаў у пачатку 1920 года скончылася безвынікова, як і спроба дасягнуць гэтага пры дапамозе палякаў.

**Аляксандр ЦІХАМІРАЎ.**

**Працяг.**
**Пачатак у № № 8—10.**

# У ГЭТАГА ЧАЛАВЕКА ШЧАСЛІВЫ ЛЁС...

Тры з паловай дзесяцігоддзі ў шматгалоссі беларускай літаратурнай крытыкі гучыць важкае слова Уладзіміра Гніламёдава. Шматлікія даследаванні па гісторыі і тэорыі літаратуры, крытычныя працы, навуковая і выхаваўчая дзейнасць у сценах Нацыянальнай акадэміі навук Беларусі — адзнакі яго прафесійнага шляху.

Нарадзіўся Уладзімір Гніламёдаў 26 снежня 1937 года на Брэстчыне. Яго біяграфія шмат у чым нагадвае біяграфіі яго равеснікаў, што выйшлі з ваеннага дзяцінства і цягнуліся да вучобы, ведаў, мастацтва. Філфак Брэсцкага педінстытута імя Пушкіна, вайсковая служба, настаўніцкая праца. Аспірантура як адзнака мэтанакіраваных памкненняў і навуковая дзейнасць.

Кнігі, а іх нямала, сведчаць пра няўрымслівасць і плён намаганняў У. Гніламёдава.

Манаграфія "Традыцыі і наватарства", без перабольшання, стала сапраўдным крокам наперад усяго беларускага літаратуразнаўства. Кніга прысвечана аналізу праблемнага пытання — традыцый і наватарства ў беларускай паэзіі 50-х—60-х гадоў. Гэты перыяд, пазначаны радыкальнымі зменамі і зрухамі ў грамадскім жыцці і мастацтве, патрабаваў глыбокага асэнсавання. Грунтоўная тэарэтычная база паспрыяла далейшаму развіццю літаратуры. Даследчык здолеў раскрыць складанасці ўзаемадачыненняў мастака са сваім часам і народам, асэнсаваць дыялектыку формы і зместу паэзіі.

Заканамерным вынікам шчырай і натхнёнай працы даследчыка з'явіліся зборнікі літаратурна-крытычных артыкулаў "Упораўнень з часам" (1976) і "Як само жыццё: кніга бягучай крытыкі" (1980). Кнігі прысвечаны разгляду творчасці асобных пісьменнікаў і аналізу агульных праблем і тэндэнцый, што вызначаюць нашу літаратуру. У. Гніламёдавым напісаны творчыя партрэты Івана Мележа, Максіма Лужаніна, крытычна-заглыблена асэнсавана паэзія "неспакойнага" Аркадзя Куляшова і "вострасканфліктнага" Пімена Панчанкі. Прааналізавана творчасць С. Дзяргая, П. Макаля, Е. Лось, высока ацэнена дакументальная проза І. Новікава. Задушэўнасць і цеплыня ў абмалёўцы рэальных характараў, як правіла, у аўтара спалучаюцца з цвёрдай крытычнай пазіцыяй.

Характэрна, што ў кнігах У. Гніламёдава заўсёды ўражвае ўменне выбраць і вытрымаць патрэбную танальнасць, не збіцца на апісальнасць, дэкларатыўнасць і сухасць. Яго навукова-публіцыстычныя даследаванні знітаваны адзіным эстэтычным захапленнем ад мастацкага слова і нават пэўнай рытмікай. Гэтыя ж прыкметы і ў кнізе "Сучасная беларуская паэзія: творчая індывідуальнасць і літаратурны працэс" (1983). Трэба сказаць, яна ўжо стала падручнікам для студэнтаў-філолагаў. У ёй аўтар даследуе дыялектыку ўзаемадзеяння мастацкай індывідуальнасці і літаратурнага працэсу, разглядае гэту праблему ў шырокіх сацыяльна-грамадскіх, гістарычных, культурных сувязях.

Уважлівым настаўнікам і шчырым дарадчыкам выступае Уладзімір Васільевіч у кнізе артыкулаў "Ля аднаго вогнішча" (1984). Тут ён звяртаецца да маладога зацікаўленага чытача, прапануе яму свае набыткі (ураджай!). Па ўсім відаць, зрабіць гэта для яго было важна, яшчэ ва ўступе ён заўважае: "Гэта паэты майго пакалення, яны ўяўляюцца мне неяк разам, ля аднаго вогнішча, якое зырка гарыць, выразна высвечваючы іх абліччы. Як жа інакш — ля кастра збіраюцца звычайна аднадумцы..."

Багаты вопыт, выкрышталізаванае майстэрства засведчылі манаграфіі "Іван Мележ: нарыс жыцця і творчасці" (1984) і "Праўда зерня: творчы партрэт Васіля Зуёнка" (1992). Яшчэ ў першых сваіх працах У. Гніламёдаў падкрэсліваў навуковую і мастацкую неабходнасць грунтоўных манаграфічных прац па творчасці знакамітых беларускіх пісьменнікаў. І вось яго кнігі прысвечаны найярчэйшаму нацыянальнаму празаіку і арыгінальнаму паэту. Гэтыя даследаванні характарызуюцца ўменнем аўтара ахапіць багаты біяграфічны матэрыял, прасачыць складаны працэс станаўлення творчай індывідуальнасці, выявіць узаемадзеянні і дасягненні.

Таленавіты крытык прапануе нам даследаванне "Класікі і сучаснікі" (1987), глыбокія і грунтоўныя публікацыі ў перыёдыках, у тым ліку і агляд беларускай літаратуры Беластоцкага рэгіёна.

Кніга "Янка Купала: новы погляд" (1995) сведчыць пра высокую актыўнасць, апантанасць пошукаў вучонага. Аўтар робіць яшчэ адзін крок да спасціжэння мастацкай існасці і феномена купалаўскай паэзіі, прадаўжаючы шлях папярэднікаў і выгрунтоўваючы дарогу наступнікам.

Так працуе беларускі крытык і літаратуразнаўца Уладзімір Гніламёдаў. Асаблівасць яго дзейнасці ў тым, што яна навідавоку. Тут нельга расслабляцца, бо на плячах — вялікая адказнасць. Вось у чым сутнасць вучонага — добрасумленнасць і прафесіяналізм. Гэта ж могуць пацвердзіць і вучні прафесара, тыя, чые імёны таксама ведае нацыянальнае літаратуразнаўства: А. Ненадавец, А. Яскевіч, А. Гарадніцкі, М. Мікуліч. Зараз член-карэспандэнт НАН Рэспублікі Беларусь, член Саюза пісьменнікаў з чвэрцьвяковым стажам, арыгінальны і самабытны даследчык, удастоены ўзнагарод і прэмій, не шукае спакою. Гэта адзнака інтэлігента, які не бывае старым, а толькі — сапраўдным. У адной са сваіх кніг У. Гніламёдаў прыводзіць словы Васіля Шукшына: "З'ява гэта — інтэлігентны чалавек — рэдкая. Які ён, інтэлігентны чалавек? Вобраз яго стварыў сам народ. Толькі ён называе яго — добры чалавек. Разумны чалавек. Не балбатун. Працаўнік. Майстар". Усё гэта можна сказаць і пра Уладзіміра Гніламёдава...

**Анатоль РАМАНЧУК.**

---

***Уладзімір ГНІЛАМЁДАЎ***

# ПРУСКАЎСКІ УЛІС

## АД АЎТАРА

***Чым было ў гістарычнай перспектыве наша XX стагоддзе? Кім былі мы? Што зразумелі? Сёння пра гэта думаецца асабліва часта, узнік нават намер выказаць свае меркаванні, нешта напісаць. Па прафесіі я крытык, літаратуразнавец, для якога пісаць — справа прывычная, але ў даным выпадку сказаць тое, што хацелася, у літаратуразнаўчай працы не ўяўлялася магчымым, і, прызнаюся, мяне звабіла белетрыстычная форма, тым больш, што, як кажуць, адзін раман можа напісаць кожны — раман свайго жыцця. Відаць, гэта правільна, таму што, як сказаў паэт, "людей неинтересных в мире нет", жыццё кожнага чалавека па-свойму непаўторнае. Праўда, для гэтага неабходная не толькі шчырасць, але і, я так думаю, павышанае пачуццё самапавагі, нават, у пэўным сэнсе, эгацэнтрызм, што, у сваю чаргу, можа прывесці да страты патрэбнай меры аб'ектыўнасці. І я падумаў пра іншага, аднак вельмі блізкага чалавека — пра свайго дзядулю Лявона Міхайлавіча, ля якога прайшло маё дзяцінства. Чалавек, здавалася б, звычайны, як усе, у геройчных справах не западозраны, які пражыў, дзякуй Богу, немалое жыццё і завяршыў яго на зыходзе 70-х гадоў. У нашай вёсцы яго называлі "амерыканцам", таму што ў маладосці, у пачатку стагоддзя, ён рашыўся на паездку ў далёкую Амерыку дзеля заробку. Зрэшты, пабываў ён не толькі ў Амерыцы, а шмат дзе яшчэ, ваяваў, быў паранены, выжыў і г. д., пра што я гаварыць тут не буду: гэта доўгі ланцуг падзей, здарэнняў, сустрэч і перажыванняў. Хачу толькі сказаць, што знешні ланцуг падзей выяўляе ўнутраную, маральную своеасаблівасць гэтага чалавека. Была ўсё ж такі нейкая духоўная дамінанта, якая кіравала яго лёсам, учынкамі. Я б і хацеў яе дашукацца і ў гэтым бачу сваю задачу. Не імкнуся пісаць прыгожа, галоўнае — жыццёвая праўда і дакладнасць.***

***Перад вамі — фрагмент гэтага лёсу, частка, калі хочаце, сямейнай хронікі.***

НАЗАЎТРА ізноў стаяў ля біржы, але безвынікова. Зайшоў у салун, той самы — "Разгавор па-руску", і на апошнія дзесяць цэнтаў заказаў піва. Піва аказалася пракіслым, але ён, каб нерабіць голад, выпіў увесь куфаль. Голад, аднак, толькі ўзмацніўся. Выходзячы з салуна, прыхапіў забытую нейкім аматарам піва ці віскі газету. Вулічная гарачыня здалася неверагоднай. Ногі зрабіліся цяжкія, як налітыя волавам. А страўнік і не думаў супакойвацца, не перастаючы нагадваць гаспадару аб сабе: "Падумай пра мяне, падумай пра мяне!" Калі яшчэ меў у кішэні колькі цэнтаў, дык мог нават два дні не есці, трываць, ведаючы, што ў любы момант можна схадзіць у сталоўку. Цяпер жа, калі ў кішэнях пуста, трываць было проста немагчыма.

Вырашыў падацца ў парк. Ад голаду пачало хістаць. "А што, калі аслабну зусім? Тады канец... Знікну, прападу, і ведаць ніхто не будзе. Можа, гэтак і здарылася з дзядзькам Васілём?.." Прыйшлі на памяць словы вербаўшчыка: "У Амерыцы нават самы бедны есць пірагі". Магазіны і лаўкі — што праўда, то праўда — былі забіты прадуктамі: мясам розных гатункаў, каўбасамі, кансервамі, хлебам, булкамі. Кіруючыся ў парк, спыніўся перад вітрынаю. З вітрыннага шкла на яго глядзеў схуднелы чалавек з падупалым тварам, абросшым цёмным шчаціннем. Зусім непадобны на таго прускаўскага Лявонку, якім ён сябе заўсёды ўяўляў. Шчокі ўваліліся і шчыльна абцягвалі скулы, з-над нізкіх броваў стомлена і прыгнечана глядзелі чорныя вочы.

Да фізічнай адзіноты дадалася яшчэ і адзінота душэўная, яшчэ больш цяжкая. Навакольны свет быў абсалютна абыякавы і раўнадушны да тых, каму не пашанцавала ў жыцці. І здалося, што ён самы самотны ў свеце, самы няшчасны і нікчэмны. Ён ішоў, прыгноблены, і ніхто не звяртаў увагі, як бы яго і не было, усе занятыя сабой. У свядомасці прускаўца запанавала пачуццё бездапаможнасці і адчаю. Ён бачыў, як хлопчык-негр выцягнуў з памыйніка вядра выкінуты кімсьці сандвіч, абдзьмухаў і пачаў есці. А можа і самому так? Цяжка захаваць павагу да сябе і заставацца самім сабою, калі гаворка ідзе пра тое, каб выжыць. Прускаўцам авалодалі сум, маркота, адчай. "Нашто я прыехаў сюды? Прывалокся, а цяпер? Хоць ты засіліся! Як той Юджын... А можа выйсці і не вартае таго, каб жыць? Бо які ж сэнс у такім існаванні? Дзе выйсце? Нешта ж давядзецца рабіць... А што рабіць? Не, відаць, мне ўжо няма месца на гэтым свеце. Гэта ж трэба было ехаць за край свету дзеля таго, каб памерці там. А можа я таму і прыехаў сюды, можа лёс мой такі?" Асядлаў страх. Здалося, што ён канчаткова заблытаўся і ў думках, і ў жыцці...

У парку ён паслаў на траву газету і лёг. Цяпер ён добра ведаў, што свет цёмны і страшны. Што ж рабіць?

З дрэва на дрэва, па галінках, пераскоквала вавёрка, але Лявонка яе не бачыў. Адолела стома, і ён заснуў...

Ачнуўшыся, ён падняў галаву і толькі цяпер заўважыў, што газета надрукавана паруску. Вочы пабеглі па радках і дабеглі да невялічкай стацейкі ў канцы газетнай паласы. Па складах прачытаў:

"Міліянер Біл Крамер расшуквае Мэры Хабард, Дароці Кларк і Фані Блэквуд. Ён завяшчае ім свае грошы як удзячнасць за тое, што 50 гадоў назад яны адмовіліся выйсці за яго замуж. У мінулым годзе містэр Крамер адзначыў свой 90-гадовы юбілей. Ён да гэтага часу халасцяк і лічыць, што калі б ажаніўся, то не дажыў бы да такога ўзросту. Кожная з пазначаных жанчын мае атрымаць 300 тысяч даляраў".

Прускавец міжвольна ўсміхнуўся і, адчуўшы, як смокча пад лыжачкай, перавёў погляд на суседнюю калонку:

"Невядомы чалавек выскачыў учора з дзесятага паверха атэля "Генерал Шэрман" на рагу Дзінборн і 5-й авеню. Труп знаходзіцца ў моргу для апазнання".

"Гаротнік нейкі, мусіць, як і я. З дзесятага паверха. Гэта высока, не мучыўся, пэўна. Адразу. Прыехаў, магчыма, адкуль, ды вось не пашанцавала. Але адчайны! А дома, можа, не ведаюць, чакаюць, як чакаюць да гэтага часу ў Прусцы дзядзьку Васіля. А можа гэта ён і быў? Няўжо ў гатэлі жыў? Зрэшты, паміраць усё роўна давядзецца — зараз ці на колькі гадоў пазней. Розніца невялікая. Усё адно паміраць.

— У галаве шалёна закруцілася думка аб канцы, ай падзенні ў бездань, закруцілася, утварыўшы ў свядомасці глыбокую варонку, якая нахабна засягвала ў сябе. — А як жа сёстры без мяне застануцца? Хто ім дапаможа? А яшчэ ж мама, дзядуля — яны ж чакаць будуць. А Ганна, Ганна? Бацька не прыехаў, і я не з'явіўся... (Пакутлівым болем напіліся сэрца). Хіба за гэтым я сюды ехаў? Не за гэтым..." Ён устаў, атрос травінкі, што прысталі да калень, і зноў выйшаў на вуліцу. Вакол снавалі дробныя прадаўцы, голасна рэкламуючы свой тавар: салодкую гумку, сігары, арэхі, бананы, ліманад. Сярод іх былі, напэўна, прадстаўнікі ўсіх нацый і рас, якія толькі ёсць на зямлі, аднак усе яны выглядалі абыякавымі і чужымі. Ён і сам не надта ўглядаўся ў тых натоўп. Проста — ішоў. І раптам нечакана — ажно ўздрыгануўся! — на самым перакрыжаванні ўбачыў... прускаўскую Ганну. Яе! Каханая ішла не спяшаючыся, роўным крокам, павольна набліжаючыся да яго. Тонкімі дужкамі чарнелі бровы, на шыі, на грудзях палымнелі пацёры. Здаецца, яшчэ больш пастрайнела. Станістая стала. Пасміхалася. Вачам сваім не паверыў: адкуль яна тут? Нават не паведаміла... Ён бы неяк сустрэў... Ён пабег наперад, насустрач ёй, каб яна ўбачыла яго і, не дай Бог, не абмінула. Вось яны амаль што параўняліся. Але погляд дзяўчыны прайшоў па яго твары і нават не затрымаўся. "Не яна..." І ён неяк адразу і яшчэ вастрэй адчуў, як абступіла яго з усіх бакоў адзінота...

А можа вярнуцца мне на тую ферму? Людзі там неблагія, прымуць. Толькі як дахаць? На білет трэба грошы...

З гэтымі думкамі ён дабрыў да начлежкі, дзе яго чакаў Боб. Ноччу яны спалі побач. Датчанін спачуваў яму, як "земляку з Еўропы", бачачы яго становішча. Сам ён бруkаваў вуліцы.

— Ёсць месца! — сустрэў Боб земляка.

— Дзе?

— Ідзі заўтра з раніцы, на станцыі патрэбны грузчыкі!

Прускавец захваляваўся:

— Зразумела. Я вельмі вам удзячны.

Боб пацiснуў плячыма.

**(Працяг будзе).**

РУСКІ ПАЭТ МАРЫНА НАТАЛІЧ – ПРА БЕЛАРУСЬ

# ПАЭЗІЯ — ГОЛАС ДУШЫ

**Марына НАТАЛІЧ — аўтар некалькіх вершаваных зборнікаў. Піша па-руску. Руская па нацыянальнасці. У рускіх школах атрымлівала адукацыю. Але доўгі час адпрацавала ў выдавецтве "Мастацкая літаратура". Яе, Наталлі Давыдзенка (Марына Наталіч — псеўданім), рэдактарскі ўклад — у многіх кнігах. Размова з Марынай Наталіч — пра нашу з вамі Беларусь, пра тое, што значаць нацыянальныя пачуцці для чалавека, якому, здавалася б, усё, што робіцца тут, на гэтай тэрыторыі, чужое. Але ці так ужо зусім чужое!..**

*— Рускі паэт і рэдактар беларускай кнігі, да таго ж — па гісторыі, па краязнаўству... Інтэрнацыяналізм у гэтым выявіўся ці нешта іншае?*

— Нарадзіўшыся на Далёкім Усходзе ў сям'і вайскоўца, я да 20-ці гадоў паспела шмат паездзіць і пабачыць розныя краі і мясціны, пасябраваць з людзьмі розных нацыянальнасцей. І мне ўсюды карцела даведацца, а як жа тут жывуць людзі. Асабліва любіла слухаць мясцовыя легенды. А ўвогуле больш за ўсё цікавілася гісторыяй, мастацтвам. Нават марыла стаць археолагам. Тая самая цікавасць дала знаць аб сабе і тут, калі спынілася на сталае жыццё ў Беларусі. Такі вось, атрымліваецца, інтэрнацыяналізм.

*— Відавочна тое, што Беларусь даўно ўжо стала для вас другой радзімай. Значыць, і пачуцці да яе самыя вострыя... Дык за што ў дачыненні да Беларусі самы вялікі ваш боль?*

— Ведаеце, вось на тэму дзвюх радзім... Гэтае паняцце ўжо ў гады майго дзяцінства было нібыта формулай. Шмат у каго ў нашай вялізнай краіне па розных прычынах — і асабістых, і, можна сказаць, дзяржаўных (высылкі, вайна, будоўлі) было дзве радзімы. Казалі: "вялікая" — гэта Саюз, і "малая", — мелася на ўвазе тая старонка, дзе ты нарадзіўся. Мне, рускай, па сямейных абставінах выпала жыць на Беларусі. І, можа, менавіта тут я больш адчула сябе рускай — таму што ў нечым амаль няўлоўным не супадала з іншымі, чаго раней не заўважала. Бачыла яскравыя адметнасці гэтай зямлі і людзей. І як жа было не палюбіць гэтую зямлю — яе краявіды, песні, мову, нарэшце, такі ласкавы і цёплы для мяне Мінск. Я люблю сваю радзіму — Расію — такой жа балючай і патаемнай любоўю, як і беларусы — сваю Бацькаўшчыну. Але ў маёй душы яны даўно жывуць побач, непадзельныя, як каханне.

Я шчыра адчуваю вялікі боль за Беларусь і тых людзей, якія мараць і робяць усё, каб іх краіна была сапраўды раўнапраўнай і годна пачувалася сярод народаў свету і не згубілася сярод іншых.

*— Нацыянальнае і інтэрнацыянальнае... Наколькі сумяшчальныя альбо блізкія гэтыя катэгорыі ў вашым уяўленні?*

— Я, можа, не надта разбіраюся ў тонкасцях гэтых паняццяў. Для мяне інтэрнацыянальнае заключаецца ў тым, каб ісці насустрач людзям, каб дапамагаць чалавеку, не зазіраючы ў яго "пятую графу", і пры гэтым паважаць нацыянальныя пачуцці. Бо нацыянальнае для мяне — гэта амаль душа чалавека, а з чужою душою — самым глыбінным і ранімым — таксама трэба абыходзіцца, як і са сваёй, — далікатна. Толькі не люблю, каб сваім нацыянальным (хто б то ні быў) размахвалі, як сцягам.

*— Беларуская літаратура... Яна малая ці роўная астатнім літаратурам?*

— Мне здаецца, што ўсякая нацыянальная літаратура самадастатковая ў сабе. Велічыня розных літаратур — адноснае такі паняцце, і кожны народ нараджае сваіх геніяў. Беларуская літаратура і культура ў цэлым не можа быць выключэннем.

*— Як вы лічыце, ці магла б беларуская літаратура атрымаць вядомасць у свеце без перакладу на рускую мову?*

— Чаму ж не? Канечне. У кожнай літаратуры ёсць творы, што будзе цікава перакласці на любую мову. Справа — у перакладчыках. Натуральна, што больш за ўсё яна перакладалася на рускую мову — думаю, што ў першую чаргу з-за блізкасці нашых каранёў (і няма чаго ад іх адракацца). І зусім не сумняваюся, што ёсць і будуць апантаныя перакладчыкі беларускай літаратуры ў самых розных краінах свету.

*— Суб'ектыўны погляд збоку, погляд рускага паэта... Чаго нестае беларускай паэзіі?*

— Сапраўды, мой погляд можа быць толькі суб'ектыўным. Але мне думаецца, што часам нестае позірку за далягляд. Позірку птаха з-за аблачын.

*— Ці спрабавалі вы пісаць вершы па-беларуску?*

— Не. Паэзія — голас душы, а яна прамаўляе толькі на роднай мове. Мне цікавая і дарагая творчасць шмат якіх беларускіх пісьменнікаў. Я асмелюся прапанаваць вам свой пераклад з Максіма Багдановіча, да музыкальнай паэзіі якога я стаўлюся з асаблівай пяшчотай.

**Наплывает оно**
**Вечерами, ночами,**
**Открывает окно,**
**Пробегает ветвями.**

**И одну мне твердит**
**Стародавнюю сказку —**
**Про любовь и весну**
**И про женскую ласку.**

**Сердцу снится краса —**
**Тихий говор полночи,**
**Золотая коса**
**И печальные очи.**

**Как забудусь я сном**
**В светло-тихие ночи, —**
**Смотрят в сердце мое**
**Твои синие очи...**

Я вельмі ўдзячная за гэтую гутарку. Я люблю беларускую мову сапраўднай любоўю, а пра каханне часам хочацца сказаць услых.

**Гутарыў Алесь КАРЛЮКЕВІЧ.**

## ПРЫСВЕЧАНА КАЗІМІРУ МАЛЕВІЧУ





**Да 120-годдзя з дня нараджэння мастака-супрэматыста Казіміра Малевіча былі прымеркаваны ўрачыстасці, што прайшлі ў Віцебску.**

**У выставачнай зале музея Марка Шагала была адкрыта выстава лепшых работ членаў віцебскага творчага аб'яднання "Квадрат". Адтуль віцебскія авангардысты і паклоннікі творчасці Казіміра Малевіча прайшлі памятным шэсцем да мастацкага музея.**

**У музеі таксама была адкрыта выстава, прагучала шмат слоў аб багатай творчай спадчыне Малевіча. Пасля заканчэння вечара наследнікі творчасці Казіміра Малевіча частавалі ўсіх унікальным па памерах — метр на метр — тортам.**

**НА ЗДЫМКАХ: шэсце па вуліцах Віцебска; Казімір МАЛЕВІЧ (партрэт); юбілейны торт.**

**Фота Аляксандра ХІТРОВА.**




*ЛЯ КНІЖНАЙ ПАЛІЦЫ*

# ЯК ШМАТ У СЛОВЕ — ОРША...

Працэсы нацыянальнага Адраджэння, што пачаліся ў жыцці беларускага грамадства ў пачатку 90-х гадоў, нягледзячы на іх некаторы спад сёння, далі чаканыя вынікі — у двух планах. Па-першае, актывізавалася грамадская свядомасць, усё больш людзей (правільней сказаць, пераважная большасць!) задумваецца над тым, адкуль мы і хто мы. А гэта і ў перспектыве дасць шмат. А па-другое, што таксама важна, сярод журналістаў, пісьменнікаў узрасла цікавасць да гістарычнай, краязнаўчай тэматыкі. Калі дагэтуль колькасць тых, хто ў сваёй творчасці звяртаецца да розных перыядаў мінуўшчыны, жыцця слаўных сыноў Бацькаўшчыны, можна было пералічыць па пальцах, дык цяпер ёсць ужо слаўная плеяда актыўных аўтараў, якія ў гэтым кірунку працуюць плённа і мэтанакіравана. У шэрагу іх і вядомы журналіст, цяпер намеснік галоўнага рэдактара часопіса "Беларуская мінуўшчына" Святаслаў Асіноўскі.

Першыя гісторыка-краязнаўчыя нарысы С. Асіноўскага з'явіліся на старонках газеты "Во славу Родины", якая, як вядома, тады была друкаваным органам Беларускай ваеннай акругі. А разам з гэтымі публікацыямі (з 1990 па 1994 год колькасць іх павялічылася больш чым да 150) нарадзілася ў армейскім выданні і пастаянная рубрыка "Беларусь: архівы часу". Сімптаматычна і тое, што ўсе гэтыя матэрыялы публікаваліся на беларускай мове. Падкрэслю: на беларускай мове ў рускамоўнай газеце. Зразумела, што знайшліся тыя, хто пачаў абвінавачваць С. Асіноўскага ў нацыяналізме. Але, нягледзячы на падобныя закіды (нават і на даволі высокім узроўні), рубрыка жыла. А тым самым чытач атрымаў магчымасць (а тады ж на Беларусі служылі салдаты, сяржанты і афіцэры з усіх куткоў Савецкага Саюза) шмат даведацца пра нашу рэспубліку, яе багатую гісторыю.

Згаданыя матэрыялы пакінулі ў душах дзесяткаў тысяч маладых людзей добры след. І не прапалі марна: праз некаторы час яны склалі змест кнігі С. Асіноўскага "Там, дзе была Неўрыда", якую ў 1996 годзе выпусціла выдавецтва "Полымя". І зноў пачалося захапляючае падарожжа ў свет даўніны. Сівой даўніны... Аўтар напачатку дазволіў зазірнуць у той час, калі тэрыторыю нашай краіны насялілі розныя плямёны, ад якіх і пайшлі беларусы. І нарыс, што даў назву кнізе, і такія, як "Дзе жыла латыгола", "Юндзвіл, князь яцвяжскі", "Ад царэўны Скрэвы, дачкі Багуміра", "Як дулебы сталі дрыгавічамі", "Каб цябе радзіміч узяў", быццам невялікія, але выразныя штрышкі, нанесеныя пэндзлем, якія, накладваючыся адзін на адзін, ствараюць тоны і паўтоны, вымалёўваюць саму карціну, а ў даным выпадку "палатно" Беларусі дагістарычнай. Той "тэры інкогніта", на якую кідалі свой позірк Герадот, Пліній, невядомыя аўтары летапісаў і якая па-свойму ацэньваецца сучаснымі даследчыкамі.

Зацікавілі С. Асіноўскага і падзеі, больш блізкія да нас, і, зразумела, людзі, якія тады жылі. Асобныя з раздзелаў ператварыліся як бы ў невялікія дакументальна-мастацкія аповесці. Як, да прыкладу, "Келіх Івана Сапегі". Пяць нарысаў, прадстаўленых у ім — той жа "Келіх Івана Сапегі", "Муж для каралеўны Ядвігі", "Князь, які не стаў каралём", "Барбара з роду Радзівілаў", "Ад'ютант герцага Арлеанскага", — частка гісторыі, пададзенай як праз лёс пэўных людзей, так і цэлай сацыяльнай праслойкі.

А раздзел "Залатыя стрэлы на блакітным полі" мае яркую краязнаўчую скіраванасць. Гэтым разам С. Асіноўскі ідзе ад уласных назіранняў, пачэрпнутых падчас паездак па розных рэгіёнах Бацькаўшчыны. З іх і нарадзіліся нарысы, якія знаёмяць з малавядомымі выпадкамі, расказваюць пра адметнасць тамашняга жыцця... А словы "залатыя стрэлы на блакітным полі" ў загаловак раздзела былі вынесены не выпадкова: гэта выява горада Оршы, а С. Асіноўскі з Аршаншчыны родам. Зразумела, што ён не абмінуў і асобных момантаў аршанскай даўніны. І тады, відаць, ужо марыў напісаць пра гэтыя землі асобную кнігу. Ва ўсякім разе, яна таксама з'явілася.

"Орша: Залатыя стрэлы на блакітным полі" — так называецца ілюстраваны храналагічны даведнік С. Асіноўскага, што таксама пабачыў свет у выдавецтве "Полымя" (1997). Трэба адразу сказаць, што падобных выданняў на Беларусі дагэтуль не было. Кніга унікальная тым, што ў ёй прасочваецца гісторыя Аршаншчыны ажно з XI тысячагоддзя да н. э. да нашых дзён. А робіцца гэта на падставе невялікіх і надзіва лаканічных матэрыялаў: памер літаральна некалькі абзацаў машынапісу, якім па-

**(Заканчэнне на 8-й стар.).**

*СА СТАРОГА КУФРА*

# МАЛАРЫЦКІЯ СТРОІ

Маларыцкія строі — традыцыйны комплекс беларускага народнага адзення ў Заходнім Палессі. Бытавалі ў XIX—XX стагоддзях пераважна ў Маларыцкім і на поўдні Кобрынскага раёнаў. Адметныя архаічнасцю, класічнай завершанасцю форм адзення, арыгінальнымі галаўнымі



ўборамі замужніх жанчын, выкарыстаннем багата аздобленых дэкаратыўных тканін. Летні жаночы гарнітур складалі кашуля, спадніца, фартух. Кашулю шылі з прамымі плечавымі ўстаўкамі і адкладным каўняром. Аздаблялі чырвона-карычневым геаметрычным арнаментам, скампанаваным у папярочныя палосы ў верхняй частцы рукава, на плячах, манішцы і па краі каўняра. Гарманічным спалучэннем натуральнага колеру бела-шэрай і карычнева-чырвонай воўны, белага лёну і пянькі вылучаюцца пругкія накшталт лямцу святочныя спадніцы — буркі, характэрныя толькі для маларыцкіх строяў. Фартух (1—2-полкавы) часта меў дэкаратыўныя вышытыя завязкі. Падпярэзвалі спадніцу тканым на кроснах чырвоным поясам. Асаблівую выразнасць касцюму надавала намітка, якую ў адрозненне ад намітак іншых строяў, багата аздаблялі вышыўкай: разеткамі-зоркамі на адным рагу і ўзорыстым шлякам на двух краях.

У касцюме свацці своеасаблівай маляўнічасцю вызначаўся галаўны ўбор (каробачка-лямец, аздобленая рознаколернымі паскамі саціну, шоўку, тасёмкамі, пацеркамі і двума пукамі-рожкамі пярэстафарбаванага пер'я). Шыйныя і нагрудныя ўпрыгажэнні — пацеркі, крыжыкі, лычманы (3, 5, 7 круглых медальёнаў-абразкоў, прымацаваных за тасёмкі).

У мужчынскі гарнітур уваходзілі кашуля навыпуск, пояс і нагавіцы; галаўны ўбор — саламяны капялюш. Верхнім адзеннем былі світы-латушкі з белага, шэрага або цёмнакарычневага валенага сукна, а таксама кажухі.



Прыведзеныя М. Раманюком рэканструкцыі маларыцкіх строяў XIX і сярэдзіны XX стагоддзяў даюць уяўленне аб тым, як традыцыйныя строі эвалюцыяніруюць з улікам часу і адпаведнай зменлівасці бытавых умоў, абставін, матэрыялаў, новай эстэтыкі і г. д.

**НА ЗДЫМКАХ: маларыцкія строі.**

**Падрыхтаваў да друку Дзяніс РАМАНЮК.**

ВЫСТАВЫ



**У Віцебскім абласным краязнаўчым музеі адкрылася выстава новых паступленняў апошніх год. Экспанаты былі закуплены і сабраны прыватнымі калекцыянерамі, знатакамі даўніны. У выніку наведвальнікам выставы прадстаўлены прадметы гарадскога і сельскага быту канца XIX — пачатку XX стагоддзяў: кабінетны раяль, калекцыя самавараў, прасаў, бязменаў, патэфоны, грамафоны і многае іншае.**

**НА ЗДЫМКАХ: знаёмства з экспазіцыяй; унікальная па свайму зместу калекцыя патэфонаў, грамафонаў.**

**Фота Аляксандра ХІТРОВА.**

# ЯК ШМАТ У СЛОВЕ — ОРША

**(Заканчэнне. Пачатак на 7-й стар.).**

пярэднічае пэўная дата. Па сутнасці, даведнік энцыклапедычнага кшталту.

Гэта, праўда, не значыць, што С. Асіноўскі абмяжоўваецца толькі пэўнымі паведамленнямі, прымаючы ўсё, што было напісана іншымі, як кажуць, на веру. Наадварот, стаўленне яго да асобных падзей, перыядаў — менавіта творчае. У неабходных выпадках выказваюцца розныя версіі, пры неабходнасці аўтар пярэчыць вывадам, што былі зроблены да яго, ці ўдакладняе іх. У першую чаргу, гэта тычыцца так званых дагістарычных падзей. У тым ліку і звязаных з заснаваннем Оршы.

Як вядома, у "Аповесці мінулых гадоў" яна ўпершыню згадваецца пад 10 ліпеня 1067 года: "Згодна з ёю, у гэты дзень на левым беразе Дняпра, паблізу ад Оршы, сыны Яраслава Мудрага — Ізяслаў Кіеўскі, Святаслаў Чарнігаўскі і Усевалад Пераяслаўскі па-здрадніцку ўзялі ў палон выкліканага імі на перамовы полацкага князя Усяслава Брачыславіча з малалетнімі сынамі Барысам і Глебам". Тут жа прыводзяцца меркаванні наконт гэтага летапіснага ўпамінання розных гісторыкаў — М. Карамзіна, В. Тацішчава, І. Барсава і сучаснага даследчыка А. Мяцельскага. І як выснова падагульненні самога С. Асіноўскага: "Такім чынам, спрэчкі аб "узросце" Оршы не давeдзены да лагічнага завяршэння. Па-першае, не даказана адназначна, што "Рша у Смолиньска" і ёсць сучасная Орша. Па-другое, перыяд, калі, верагодна, было заснавана гэта паселішча, расцягнуты па часе ад "скіфскіх часоў" (III ст. н. э.) да XII стагоддзя. Невядомы і канкрэтны заснавальнік горада. На гэта "званне" прэтэндуюць і скіфы, і невядомая асоба часоў пачатку дзейнасці шляху "з варагаў у грэкі", і полацкія князі — Рагвалод, Брачыслаў, Усяслаў і, можа, хто-небудзь іншы..."

Перад гэтым жа ў кнізе змешчаны нататкі "Сярэдзіна IX стагоддзя", "X стагоддзе" і іншыя. У іх таксама сустракаюцца звесткі аб магчымым заснаванні Оршы ў згаданыя перыяды. У прыватнасці, паводле У. Ігнатоўскага, згадкі пра Аршанскую воласць (княства) якраз і прыпадаюць на сярэдзіну IX стагоддзя, а В. Ластоўскі ў 1910 годзе выказаў меркаванне, што Аршанскае княства існавала ў X стагоддзі.

У даведніку змешчана нямала і персаналій. Асобныя публікацыі прысвечаны як тым, хто ў тамашніх мясцінах нарадзіўся, так і дзеячам, якія звязалі з Аршаншчынай свой лёс. Не абыдзены ўвагай і даследчыкі, якія ў розныя часы шчыравалі на ніве аршанскай даўніны. А ў выніку можна прачытаць пра Усяслава Чарадзея, Ягайлу, Вітаўта, Афанасія Філіповіча, Януша Радзівіла, Канстанціна Астрожскага, Філона Кміта Чарнобыльскага... І пра тых жа У. Ігнатоўскага, В. Ластоўскага ды і пра сучасных археолагаў, у прыватнасці, пра В. Ляўко. А гэта яна выказала меркаванне, што Оршу мог заснаваць Брачыслаў, ствараючы тым самым адзін са сваіх фарпостаў на ўсходніх граніцах Полацкага княства.

Важна і тое, што С. Асіноўскі ўводзіць ва ўжытак малавядомыя матэрыялы. Бадай, толькі гісторыкі ведаюць, што галоўнакамандуючы расійскай арміяй генерал-фельдмаршал М. Кутузаў, знаходзячыся 13—25 лістапада 1812 года ў Оршы, звярнуўся да свайго войска, якое ўступіла на тэрыторыю Беларусі, з такім заклікам: "Я лічу неабходным... строга забараняць усялякі дух помсты (і нават нараканне ў чым-небудзь) жыхарам беларускім, тым больш прычынення ім крыўдаў і ўціску, а наадварот, няхай сустрэнуць яны нас, як суродзічы нашых братоў, абаронцаў ад агульнага ворага і суцяшальнікаў ва ўсім тым, што яны выцерпелі падчас кароткачасовага знаходжання пад ігам чужой і гвалтоўнай улады, прыходам нашым няхай адродзіцца паміж імі цішыня і спакой". Зразумела, у гэтым можна ўбачыць і тактычны ход. Яно то так, але М. Кутузаў не збіраўся помсціць (і ад іншых патрабаваў) тым беларусам, якія падтрымлівалі Напалеона. І ў гэтым, несумненна, яго высакародства.

Прадмову да кнігі "Орша..." пад назвай "Стрэлы ў бяспамяцтва" напісаў Уладзімір Арлоў. Заключнымі радкамі яе і хочацца закончыць развагі наконт таго, што зроблена на сённяшні дзень у галіне гістарычнага краязнаўства С. Асіноўскім: "Залатыя стрэлы" раняць соннага, але смяротна небяспечнага звера — бяспамяцтва, які затаіўся ў многіх нашых суайчыннікаў. На добры лад, кнігу накшталт той, якую вы зараз трымаеце ў руках, павінен дачакацца кожны са старажытных беларускіх гарадоў: Полацк і Навагрaдак, Гародня і Нясвіж, Ліда і Слуцк... Няхай гэта здарыцца яшчэ ў нашым стагоддзі".

Ад сябе хачу дадаць — і Капыль таксама. Пра яго мне даводзілася ўжо неаднойчы пісаць, яму і кнігу прысвяціў "Ля Каменкі бруістай". І, канечне ж, з задавальненнем падрыхтаваў бы такі ілюстраваны храналагічны даведнік. Ёсць, праўда, адно істотнае "але"... Але не будзем забываць, што кнігу "Орша: Залатыя стрэлы на блакітным полі" фундавалі аршанскія ўлады. На жаль, бюджэт далёка не кожнага з вышэйзгаданых гарадоў можа сёння дазволіць падобную раскошу.

**Алесь МАРЦІНОВІЧ.**

**Рэдактар Вацлаў МАЦКЕВІЧ**

**ЗАСНАВАЛЬНІКІ:**
**Дзяржаўны камітэт па справах рэлігій і нацыянальнасцей Рэспублікі Беларусь;**
**Беларускае таварыства дружбы і культурнай сувязі з зарубежнымі краінамі;**
**Беларускае таварыства па сувязях з суайчыннікамі за рубяжом (таварыства «Радзіма»).**



**НАШ АДРАС: 220005, Мінск, праспект Ф. Скарыны, 44.**

**Тэлефоны: 213-31-97, 213-32-80, 213-30-15, 233-16-56, 213-37-82.**

**Пазіцыя рэдакцыі і аўтараў, матэрыялы якіх друкуюцца на старонках «Голасу Радзімы», не заўсёды супадаюць.**

**Газета набрана, звярстана і аддрукавана ў друкарні «Беларускі Дом друку». (220041, г. Мінск, пр. Скарыны, 77).**
**Тыраж 1 835 экз. Індэкс 63854. Зак. 423.**
**Падпісана да друку 16. 3. 1998 г. у 12.00.**
**Рэгістрацыйнае пасведчанне № 81.**